PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 43 (2058) ГОД XL БЕЛАСТОК 22 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Восеньскі краявід.* **Фота Аляксандра Вярбіцкага**

*Алена Яскевіч*

## Пракаветны дар Сакрата

Сакрата Яновіча можна было б назваць „сімвалам” Беластоцкага краю, але ж адцягнены змест гэтага слова зусім не сумяшчальны ні з асобай С. Яновіча, ні з ягонай творчасцю. Творчасць С. Яновіча вызначае канкрэтыка, заземленасць, углыбленне ў родныя карані: традыцыі, прыроду, псіхалогію.

Але Сакратава заглыбленасць хутчэй не праява даследчыцкіх студый, але адзіная рэальная мажлівасць для беларусаў выжыць як нацыі.

Феномен яго творчасці міжволі вяртае нас да пачатку новай беларускай літаратуры, калі сама беларуская моўнасць *доўга знаходзілася ў дзікім стане, цвіла не як садовы ружавы куст, а як вольная шыпшына, захоўваючы свой першародны водар*. Відаць, толькі рамантычны падыход стаўся здольным па-сапраўднаму адкрыць пракаветныя глыбіні душы народнай, найпершы водар прыроды і побыту нацыі. Адбывалася паступовае пазбаўленне ўсвядомленай мастацкай традыцыі ад амярцвелых і склератычных канонаў дыдактызму папярэдніх літаратурных напрамкаў, празмерна рацыяналістычных канцэпцый папярэдніх эпох. Перад нацыянальнай літаратурай паўставала найнадзённейшая задача складвання і выхоўвання чытацкай аўдыторыі. Для прыцягнення ж і зацікаўлення такой аўдыторыі была патрэбна літаратура тоесная падарунку сэрца, пачуццю і мове, літаратура баладна-сказавая па жанравых відах, у нечым сусальна-сінкрэтычная па змесце і арганізацыі формы, падобная побытаваму анекдоту ці рамантычнай фальклорнай легендзе.

У натуральна неспрыяльных умовах для беларускай літаратуры, калі, здавалася, пераважная ўвага на баку іншых культурных традыцый, праз непазбежнае прымерванне да развітых заходнееўрапейскіх літаратур, — надзвычай цяжка давалася смеласць у сцверджанні роўнасці, годнасці свайго: мовы, звычаяў, гісторыі. І ці не адсюль і ў Сакрата Яновіча родная беларускай літаратуры XIX ст. стылёвая адметнасць: натуральнасць апавядання, ашчаднасць выяўленчых сродкаў, побач са сціслым, амаль схематычным выкладаннем дапускаецца мерная дэталізацыя, элементы апісальнасці, паўторы, у наяўнасці прысутнасць шматлікіх абразкоў-замалёвак роднай прыроды, працы і побыту чалавека, што цеснымі каранямі звязана з народнай абрадавай традыцыяй.

Гумар твораў Сакрата Яновіча сапраўды як зброя чалавека з невычэрпнаю сілаю духа, нескаронай вераю ў сваю ісціну. Увесь дыяпазон сродкаў мастацкай выразнасці камедыйнага роду літаратуры ад побытавага абразка-фражкі да сатыры і гратэску дапамагае аўтару ў звышзадачы яго як пісьменніка-філосафа — адмаўленні зла і недарэчных праяў жыцця. Менавіта ў гумары — сродак абароны і замацавання маральнай перамогі галоўнага героя твораў і аўтара, іх чалавечага права на самае простае зямное шчасце, трапяткое і гарачае, імгненнае і вечнае.

*Працяг на стар. 8*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Politycy są produktem bardziej szkodliwym niż wódka i papierosy razem wzięte, wpływają zabójczo na system nerwowy, działają kryminogennie, powodują zakłócenia równowagi, mdłości, a niektórzy nawet gorzej.*

*Polityka, nr 39*

Два тыдні таму назад газеты апублікавалі спісак кандыдатаў на прэзідэнта III Рэчы Паспалітай. Паказаліся новыя цікавыя прозвішчы — Лешэк Бубэль, пра якога вядома, што любіць піва і як кандыдат лічыць на падтрымку аматараў гэтага напітку. Багдан Паўлоўскі, спецыяліст па фізкультуры, пра якога пакуль што нічога невядома. Казімеж Пятровіч, які заявіў, што не прачытаў ніводнай палітычнай кніжкі, не цікавіўся палітыкай і сам прыдумае палітычны парадак у краіне, калі стане прэзідэнтам. Ёсць яшчэ і больш вядомыя прозвішчы як: Ясь Петшак, Ясь Альшэўскі, Вальдэк Паўляк, Лесё Мачульскі, Ганя Гранкевіч, Леху і шмат іншых знакамітасцяў. Шкада, што толькі адзін з кандыдатаў можа стаць прэзідэнтам.

* * *

*Kampania prezydencka znajduje się w fazie, w której niezbędna wydaje się interwencja prokuratora. Takiej interwencji jednak nie będzie, bowiem prokuratura angażuje się zazwyczaj w sprawy poważne. Skoro, jak dotychczas, nie widać takiego zaangażowania, można sądzić, że organ sprawiedliwości nie uznaje tej fazy kampanii wyborczej za rzecz wystarczająco poważną. Zupełnie słusznie. Jeśli kandydaci na najwyższy urząd w państwie postanowili kompromitować się na oczach publiczności, to chwała im za to, gdyż dostarczają społeczeństwu porcji godziwej rozrywki i interwencja prokuratury mogłaby tę zabawę zepsuć.*

*Gazeta Współczesna, nr 189*

* * *

*Ryszard Czarnecki, przewodniczący ZChN wymaga, aby wspierana przez jego partię kandydatka na prezydenta Hanna Gronkiewicz-Waltz jako postulat programowy ogłosiła „politykę prorodzinną". W III Rzeszy niczym tak się nie zajmowano, jak właśnie rodziną, a sam Hitler podawał się za chrześcijanina. W Chinach aż tak się opiekują rodziną, że zaglądają do łóżek. W wolnym świecie, zgodnie z nazwą politykę prorodzinną prowadzą rodzice.*

*Najwyższy Czas, nr 36*

* * *

*Grabieże i mordy ludności serbskiej w Krajinie dokonywały się z cichą a czasem jawną aprobatą władz chorwackich, a szczególnie prezydenta Franjo Tudjmana.*

*Gazeta Wyborcza, nr 229*

„Газета" адкрывае факты, якія ад двух месяцаў былі вядомыя ўсяму свету.

* * *

*Przyszły uniwersytet w Białymstoku powinien działać na rzecz środowisk polonijnych na Białorusi i Litwie. To nie ulega dla mnie wątpliwości — wyznał wicemarszałek Sejmu, Włodzimierz Cimoszewicz. Wobec takich zamierzeń uniwersytet na pewno powstanie dość szybko. A Białorusinom z Białostocczyzny pozostanie przyjemność jego utrzymywania.*

*Przegląd Prawosławny, nr 10*

* * *

*Niemal połowie mieszkańców Białorusi przysługiwały do niedawna przeróżne ulgi — zmniejszone czynsze, opłaty za telefon, bezpłatne przejazdy. Korzystało z nich ogółem ok. 5 mln. osób. Było tak do 1 września, gdy prezydent wydał dekrety o ulgach i zasadach wypłaty emerytur. Niepopularne decyzje Łukaszenki z pewnością zechcą wykorzystać jego polityczni przeciwnicy. Przypomną populistyczne hasła prezydenta w obronie interesów prostego człowieka. Łukaszenko dostrzegł to niebezpieczeństwo. Jego urząd ds. informacji oświadczył, że prezydent na podstawie badania opinii „szerokich warstw społecznych" zamierza zweryfikować wiele propozycji, które były podstawą jego dekretów. Niewykluczone, że prezydent wystąpi w obronie społeczeństwa przed skutkami dekretów, które sam wydał. Aleksander Łukaszenko umiejętnie wykorzystuje zakorzeniony stereotyp o dobrym carze, czy I sekretarzu i złych ministrach. Wkrótce zapewne społeczeństwo będzie poinformowane, że prezydent wprowadzony w błąd przez ministrów podpisał dekrety godzące w jego interesy. Prawdopodobnie Łukaszenko jako obrońca prostego ludu wkrótce wystąpi w telewizji i zgani publicznie swoich urzędników.*

*Gazeta Wyborcza, nr 225*

Так у сапраўднасці зусім невядома, чаму палякі выбралі на прэзідэнта чорнарабочага, а беларусы — калгасніка. Люд так вырашыў. Люд мае тое, чаго хацеў. „Да здравствует 1 Мая!".

* * *

*Obywatel Turcji Ali Saglam stanowi żywy dowód nieograniczonych możliwości męskiej potencji. W wieku 104 lat urodził mu się syn, dzięki czemu jest najstarszym na świecie mężczyzną, który został ojcem. Choć czteromiesięczny Mehmet jest już jego siódmym dzieckiem, Ali Saglam ma nadzieję, że nie będzie to jego ostatni potomek.*

*Wprost, nr 35*

Усё залежыць ад актыўнасці суседзяў.

* * *

*„Atrakcyjne dziewczyny", „Pokusa", „Rozkosz", „Dyskrecja", „Relaksujący masaż ER", „Sam na sam", „Bezkonkurencyjne dziewczyny",* — рэкламуюцца бардэлі ў беластоцкай прэсе.

*Kurier Poranny, nr 222*

* * *

*Największym skandalem III Reczypospolitej jest brak skandali.*

*Wprost, nr 40*

* * *

*Każdy obywatel polski, który ukończył 35 rok życia, nie jest pozbawiony praw publicznych i zbierze 100 tys. podpisów, może ubiegać się o prezydenturę. Urzędujący prezydent będzie więc konkurować z kandydatem, którego politycznym dorobkiem są jedynie guzy wyniesione z agencji towarzyskiej (burdelu).*

*Polityka, nr 40*

* * *

*Komornik Sądu Rejonowego Rewir II w Łomży podaje do publicznej wiadomości, że odbędzie się licytacja mienia ruchomego... w skład którego wchodzą: młynek do kawy i ekspres do kawy.*

*Gazeta Współczesna, nr 192*

# З мінулага тыдня

**Сеймавая Камісія нацыянальных і этнічных меншасцей**, разглядаючы бюджэтныя прапановы на 1996 год дайшла да вываду, што прадугледжаная ў праекце бюджэту Міністэрства культуры і мастацтва сума 1,86 мільёна новых злотаў на патрэбы меншасцей — недастатковая. Паслы адзначылі, што хаця прапанаваная ў праекце сума большая на 10% за сёлетнюю датацыю, аднак, калі ўлічыць інфляцыю, будзе яна мець меншую рэальную вартасць. Паслы прыпомнілі таксама аб неабходнасці стварыць пасаду ўпаўнаважанага ўрада па справах нацыянальных меншасцей, паколькі гэтая справа надта доўга чакае свайго вырашэння.

**У Варшаве** адбылася штогадовая сустрэча ў вярхах прэм'ер-міністраў краін-удзельніц **Сярэднееўрапейскай ініцыятывы (CEI)**. Цяпер да гэтай міжнароднай арганізацыі належаць: Польшча, Чэхія, Славакія, Венгрыя, Аўстрыя, Італія, Славенія, Македонія, Боснія і Герцагавіна. Вясной будучага года новымі членамі стануць: **Беларусь**, Украіна, Румынія, Балгарыя і Албанія. CEI ўзнікла ў 1989 г. з мэтай ліквідаваць палітычныя падзелы эпохі халоднай вайны.

**У II этапе XIII Шапэнаўскага конкурсу**, які праходзіць у Варшаве, апынулася сорак юных піяністаў. Польшчу ў гэтай фазе конкурсу прадстаўляла 9 музыкаў, Японію — 7, Расею — 5, Італію — 4, ЗША, Аргенціну, Францыю і **Беларусь** — па двух, і па адным Венгрыю, Чэхію, Кітай, Харватыю, Латвію, Канаду і Тайвань.

На інаўгурацыі навучальнага года ў **Філіяле Варшаўскага універсітэта** ў Беластоку рэктар ВУ праф. Уладзімеж Сівіньскі выказаў спадзяванне, што праз два гады філіял стане самастойным універсітэтам. Цяпер ФВУ налічвае 1 216 працаўнікоў, у тым ліку 680 акадэмічных настаўнікаў, з якіх 102 асобы — гэта самастойныя навуковыя працаўнікі, а 36 — тытулярныя прафесары. У гэтай ВНУ вучыцца 12 170 студэнтаў. У мінулым годзе вучобу закончыла 1 360 магістраў чатырнаццаці спецыяльнасцей.

**Беластоцкія літаратурныя сустрэчы**, арганізаваныя ўпершыню аддзяленнем Саюза польскіх літаратараў з мэтай інтэграцыі пісьменніцкага асяроддзя, пачаліся з юбілейных урачыстасцей з выпадку 60 гадавіны з дня нараджэння і 40-годдзя творчай і навуковай працы праф. **Уладыслава Сэрчыка**. У ходзе мерапрыемства ў горадзе адбыліся аўтарскія сустрэчы з айчыннымі і замежнымі літаратарамі. Беларускіх майстроў прыгожага слова прадстаўляў **Алесь Чобат** з Гродна.

**5 кастрычніка** прэзідэнт РП **Лех Валэнса** прысвоіў групе навуковых супрацоўнікаў прафесарскія званні. З ліку 134 навукоўцаў тытул прафесара атрымала пяць асоб з Беластока: **Тадэуш Цітко, Ян Лох, Расціслаў Трыбіла** з Політэхнічнага інстытута, **Януш Станіслаў Дарэвіч** з Медыцынскай акадэміі і **Эўгеніюш Руськоўскі** з Філіяла Варшаўскага універсітэта.

**Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання** прыняла пастанову выдзеліць 3% абанементных паступленняў (каля 120 млн. старых злотаў) на пакрыццё выдаткаў звязаных са стварэннем тэлецэнтра ў Беластоку.

**У Янкавіцах** каля Познані адкрыта фабрыка шакаладу нямецкай фірмы „Штольверк". У новым, поўнасцю камп'ютэрызаваным заводзе, у якім працуе 200 чалавек, выпускацца будуць шакаладныя вырабы на айчынны рынак і на экспарт у Чэхію, Славакію, Беларусь і краіны Прыбалтыкі.

**У Чаромсе** новая пажарная часць паўстане ў 1999 г. — такое рашэнне было прынята на сустрэчы галоўнага камендата пажарнай стражы **Фелікса Дэлі** з кіраўніцтвам беластоцкіх пажарнікаў, мясцовымі парламентарыямі і ўладамі Чаромхі. Тры гады спатрэбіцца на падрыхтаванне памяшкання, кадраў і неабходнага абсталявання. Патрэба стварэння пажарнай часці ў Чаромсе выклікана адсутнасцю выратавальна-вогнетушыцельных службаў у раёне чыгуначнага вузла, праз які праходзяць транспарты небяспечных для чалавека і асяроддзя хімічных рэчываў.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Там дзе жыў Дзядзька Квас — рэпартаж Ады Чачугі.
- Краявід са статкам коней — рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- Фарсавыя праявы выбарчай кампаніі ў Польшчы.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Дэпутаты хочуць аб'яднацца

Савет Федэрацыі Расеі абсалютнай большасцю галасоў прыняў заяву аб мэтазгоднасці правядзення рэферэндуму Расейскай Федэрацыяй па пытанні аб паглыбленні эканамічнай і палітычнай інтэграцыі Расеі і Беларусі. Дэпутаты звярнуліся да прэзідэнта, Думы і ўрада з заклікам падтрымаць вынясенне гэтага пытання на рэферэндум 17 снежня — адначасова з выбарамі ў дзяржаўную Думу. У прынятай заяве ў прыватнасці гаворыцца аб тым, што расейскія парламентарыі падтрымліваюць ідэю і паслядоўныя крокі беларускага прэзідэнта па паглыбленні інтэграцыі двух брацкіх народаў і па ўмацаванні славянскага адзінства.

## Прэзідэнт у прамым эфіры

2 кастрычніка прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка выступіў у прамым эфіры Беларускага тэлебачання з прамовай па набалелых праблемах грамадства. Кіраўнік дзяржавы гаварыў аб сітуацыі ў эканоміцы, палітыцы, аб тым, што адбываецца на фінансавым рынку Беларусі, аб праблемах прыватызацыі, затрымкі заробтнай платы, неплацяжоў. Асобна спыніўся прэзідэнт і на апошніх указах аб пенсіях, прывілеях і льготах. Прэзідэнт папракнуў былога старшыню Нацыянальнага банка Станіслава Багданкевіча і журналістаў за тое, што прадстаўляюць несапраўдны вобраз эканамічнай сітуацыі ў краіне і паабяцаў тэлегледачам цыкл рэпартажаў пра эканоміку краін блізкага замежжа.

## Заява сацыял-дэмакратаў

Сацыял-дэмакратычны саюз прыняў заяву, у якой гаворыцца, што дзяржава, заснаваная на падзеле ўладаў, не можа выконваць свае абавязкі перад грамадзянамі, калі адна з галін улады не працуе. Сумным фактам нашай рэчаіснасці з'яўляецца адсутнасць дзеяздольнага Вярхоўнага Савета. СДС лічыць, што пакуль не будзе абраны новы склад дэпутатаў, стары ВС абавязаны забяспечваць усе функцыі вышэйшага прадстаўнічага і адзінага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады, як таго патрабуе Канстытуцыя РБ.

## Парламентарыі здаліся

Дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII склікання, якія сабраліся 3 кастрычніка для прадаўжэння пленарнага пасяджэння XVIII сесіі высветлілі, што няма кворуму і вырашылі папрацаваць у камісіях. Відаць, частка дэпутатаў паслухала прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку, які напярэдадні сесіі ў тэлевізійным выступленні заклікаў іх больш ужо не збірацца. У такой сітуацыі Прэзідыум Вярхоўнага Савета вырашыў надрукаваць спіс дэпутатаў, якія не з'яўляюцца на сесіі па няўважлівых прычынах. Старшыня ВС Мячэслаў Грыб адзначыў, што сярод тых, хто не прысутнічаў ёсць і хворыя, але ёсць і людзі, якія спалохаліся, якіх купілі грашыма або пасадай.

## Даследуецца Баршчэўскі

Першыя ў Беларусі выданні твораў Яна Баршчэўскага з'явіліся толькі некалькі гадоў таму, але дзякуючы выставам у музеях, тэатральным пастаноўкам і новаму мастацкаму фільму Віктара Турава „Шляхціц Завальня", літаратурныя героі гэтага пісьменніка сталі ўжо шырокавядомыя. У той жа час біяграфія самога аўтара, нават год нараджэння і месца, дзе знаходзілася сядзіба Баршчэўскага на Расоншчыне, пакуль дакладна не ўстаноўлены. Туды адправілася комплексная навуковая экспедыцыя Віцебскага дзяржаўнага універсітэта. У час яе літаратуразнаўцы, гісторыкі, этнографы і геаграфы на чале з першым прарэктарам універсітэта Анатолем Дарафеевым збяруць матэрыялы аб культуры і гісторыі паўночнага краю рэспублікі, які называюць яшчэ Беларускім паазер'ем.

## Мытнікі садавіну не любяць

Наладжаны пастаўкі малдаўскай садавіны і гароднiны ў Гомельскую вобласць. Ужо дастаўлены каля ста тон вінаграду, больш за дваццаць тон яблыкаў, некалькі машын сліў, кавуноў, памідораў, капусты. Дары восені, вырашчаныя ў экалагічна чыстай зоне, з'явіліся ў меню дзіцячых дашкольных устаноў, а таксама ў свабодным продажы. Аднак сур'ёзнай перашкодай паранейшаму застаюцца мытні, у тым ліку і беларускія. Ніхто не хоча зразумець, што садавіна — скорасапсавальная прадукцыя. Ей патрэбная зялёная вуліца, тым больш, што набліжаюцца халады. Каб больш апэратыўна вырашаць пытанні, што ўзнікаюць падчас паездак і выключаць розныя дарожныя эксцэсы, у Гомелі вырашылі сфарміраваць спецыяльныя аўтакалоны для дастаўкі садавіны і гароднiны.

## Наркабізнес

Здаецца, Брэст карыстаецца асаблівым аўтарытэтам сярод гандляроў макавай саломкай і іншымі наркатычнымі рэчывамі. Нядаўна супрацоўнікамі міліцыі затрыманы быў жыхар Масквы, кіраўнік аднаго з малых прадпрыемстваў. У яго аўтамабілі знойдзены 67 поліэтыленавых пакетаў з расфасаванай макавай саломкай агульнай вагой каля 14 кг. А ў адной з брэсцкіх кватэр затрыманы трое мужчын, у якіх канфіскавана 5 кг макавай саломкі і прыстасаванні для вырабу наркотыкаў.

# Пустыя аўтобусы

Кожны, хто захоча наведаць нейкую краіну за ўсходняй мяжой Польшчы і даехаць там на аўтобусе фірмы „Біякомекс", павінен білет купляць пару хвілін да ад'езду, а раней некалькі разоў упэўніцца ці наогул выбраны намі курс адбудзецца. А ўсё гэта з прычыны невялікай колькасці пасажыраў, якія ездзяць цяпер у Вільню, Менск, Бярэсце, Коўна. Расклад аўтобусаў, запланаваны пару гадоў таму, калі на кожны курс білеты распрадаваліся некалькі дзён раней, сёння ўжо неактуальны. „Калі збярэцца дзесяць пасажыраў, — гаворыць шафёр „Біякомексу", — гэта ўжо натоўп". Па прывычцы, каб паехаць у Вільню, білет купіў я на два дні раней. 29 верасня аўтобус меў ад'едаць з аўтавакзала ў пятнаццаць гадзін і пятнаццаць мінут. Хаця з'явіўся я дзесяць мінут да ад'езду, на прыпынку не пабачыў ні аўтобуса, ні ахвотных ехаць у сталіцу Літвы. Калі набліжаўся час ад'езду, на ўсялякі выпадак я праверыў свой гадзіннік, але з ім усё было ў парадку. Пабег тады я да кіраўніка руху. Калі паказаў яму свой білет на аўтобус, якога не было на прыпынку, той аж пачырванеў. Курс быў адкліканы, бо ў касе прадалі толькі два білеты. Адзін з пасажыраў паспеў забрацца аўтобусам, які адпраўляўся ў Вільню гадзіну раней. Паводле закона білет гэты — дамова, якая абавязвае абодва бакі. Пасажыр, выконваючы яе, павінен заплаціць запрапанаваную суму, а ўласнік транспарту давезці яго на акрэсленае месца. Таму прапанавалася мне ехаць аўтобусам у Коўна, а пасля фірма на свой кошт магла б аформіць мне транспарт у Вільню. Вырашыў я аднак паехаць наступным аўтобусам, які адпраўляўся з Беластока на шэсць гадзін пазней — у дзевяць вечара. Аматараў начной паездкі ў сталіцу Літвы было няшмат — усяго сем чалавек, у тым — як можна было здагадацца — чатырох літоўскіх кантрабандыстаў. Ім пашанцавала. Мытнікі нават не зайшлі ў аўтобус. За гадзіну памежныя бюракраты паставілі ўсе неабходныя пячаткі і можна было ехаць далей. У Вільні аказалася, што толькі пасажырам нашага аўтобуса так пашанцавала. Разам з намі заехаў менавіта на віленскі аўтавакзал аўтобус з Беластока, які выехаў сем гадзін раней. Невядома чаму стаяў ён столькі часу на мяжы. Пасажыраў было няшмат, а літоўскія мытнікі патрабавалі нейкага ўшанавання іх нялёгкай працы. Шафёр падказваў, што сума меншая чым трыста долараў не пераканае ўжо мытнікаў, што пасажыры рэйсавых аўтобусаў сапраўды шануюць іх працу.

Зраўняліся цэны тавараў у Польшчы, Літве, Беларусі і Украіне. Адзіны асартымент, які за ўсходняй мяжой ёсць нашмат таннейшы — спірт і спіртныя напіткі — дае яшчэ прыбытак усялякім „бізнесменам", якія 3—4 разы ў дзень змогуць перасячы мяжу. Але яны карыстаюцца таннейшым транспартам — перапраўляюць кантрабанду пяшком або чыгункай. У выніку зраўнання цэнаў апусцелі аўтобусы, міжнародныя цягнікі, памежныя пункты, адзе не нашмат змяніўся стыль працы пагранічных службаў. Усё яшчэ поўна там розных саветаў, якім імпануе ўлада. Магчыма, што яны ўжо ў меншасці, але дрэннае ўражанне ад іх працы застаецца ў памяці вельмі доўга. Тое, што вяртаючыся назад літоўска-польскую мяжу перасякалася за паўгадзіны, здалося нейк так незвычайным, што вартым, каб пра гэта ўпамянуць. Няма ніякіх перашкодаў, каб сталася гэта нармальнай з'явай. Хапае толькі, каб людзям, якія працуюць на мяжы, давесці да свядомасці, што іх прысутнасць там не дзеля таго, каб дакучаць пасажырам, а толькі ім дапамагаць. Але калі такі стан свядомасці будзе паўсядзённай нормай?

**Я. М.**

## У Гарадоцкай гміне
## На дэмаграфічным мінусе

Ад пару дзесяткаў гадоў пусцеюць вёскі ў Гарадоцкай акрузе. У 1960 годзе Гарадок налічваў 1 500 жыхароў, у 1970 годзе — 1 782 і ў 1978 годзе — 2 144 асобы, у тым ліку 989 мужчын і 1 155 жанчын. У 1978 годзе ахрысцілі 74 дзяцей ды памерлі 32 чалавекі. У тым жа годзе ў Гарадоцкай гміне налічвалася 8 306 чалавек.

У 1992 годзе нарадзілася 57 дзяцей ды памерла 84 асобы. Колькасць жыхароў зменшылася тады на 82 чалавекі.

У 1993 годзе гміна налічвала 6 954 жыхары. У тым жа годзе нарадзілася 73 дзяцей ды памерлі 116 чалавек.

Зараз насельніцтва гміннага цэнтра — Гарадка — складае 2 184 чалавек. Так, як на ўсёй так званай Усходняй сцяне, — наглядаецца тут абязлюдзенне вёсак.

**(яц)**

## З ГАЛІНЫ ГАНДЛЮ І ПАСЛУГ

Беспаваротна, здаецца, мінуў час, калі нашы людзі лічылі куплю бутэлькі спірту „Раял" эканомнай здзелкай. Нешчаслівыя выпадкі з прагнымі аматарамі таннага, а заадно моцнага напою, але яшчэ ў большай ступені загіджванне яго ў сродках масавай прапаганды зрабілі сваё. Пакупнікі сталі круціць насамі, перабіраць і адмаўляцца ад алкаголю з ненадзейнымі наклейкамі. Згодна дэвізу „клiент — наш пан", прадаўцы былі прымушаны змяніць асартымент тавару. І палепшыць якасць паслуг.

Цяпер машыны на беларускіх або ўкраінскіх нумарах умела ўпісваюцца ў вясковы краявід Беласточчыны, разам з кучай мясцовых пастаўшчыкоў. Калі ўжо сяляне-пенсіянеры абкупяцца хлебам, булкамі, смятанай, каўбасой і цукеркамі для гарадскіх унукаў, пад сам панадворак пад'язджаюць госці з-за ўсходняй мяжы і прапануюць... „польскі спірт з Любліна". За паўлітра просяць 100 тысяч, але цану спакойна можна збіць на 90. Літровую пляшку можна купіць яшчэ танней — усяго за 170 тысяч. Ну і ёсць ужо універсальнае лякарства ад любых хвароб, якое можна прымяняць на розныя спосабы, хоць піць, хоць націрацца. Але і так, пэўна, найбольш памагае свядомасць, што спірт быў куплены амаль у тры разы танней, чымсьці ў краме, дзе паўлітра каштуе 250 тысяч старых злотаў.

**ак**

## У Нараўцы
## Пасадзілі дэкаратыўныя дрэўцы

9 і 16 верасня г.г. жыхары новага кааператыўнага жыллёвага пасёлка па вул. Новай у **Нараўцы** садзілі дэкаратыўныя дрэўцы і кустоўе ля „сваіх" блокаў. Саджанцы, у тым ліку 130 дрэўцаў туі, купіла ў Беластоку старшыня нараўчанскай жыллёвай спулдзельні Галіна Леўша.

Варта дадаць, што дагэтуль на свабодных плошчах паміж будынкамі сеялі толькі траву.

**(яц)**

## У Гайнаўцы
## Дзве актыўныя групы

У Гайнаўцы дзейнічаюць дзве актыўныя групы: літаратурная і тэатральная. Літаратурная група „Гайнаўка" існуе пры Агульнаадукацыйным ліцэі імя М. Складоўскай. Старшынёю яе з'яўляецца дырэктар згаданага ліцэя, паэт Ян Залеўскі. У літаратурнай групе займаюцца між іншым Радаслаў Раманюк, Кацярына Сьвершч, Мар'юш Ажахоўскі, Міраслава Краеўская і Эва Коркус. Некаторыя з іх выдалі ўжо свае ўласныя зборнікі вершаў.

У тэатральнай групе „Дзеці Эвы" (існуе яна пры Гайнаўскім доме культуры) займаюцца м.інш. Альжбета Галёнка, Мацей Сміткоўскі, Кацярына Сьвершч, Мар'юш Ажахоўскі, Іаанна Літвін і Эва Коркус (старшыня тэатральнага гуртка). Група добра зарэкамендавала сябе 30 верасня бягучага года падчас літаратурнай вечарыны ў ГДК з нагоды III Гайнаўскай паэтычнай восені. Маладыя акцёры-самадзейнікі дэкламавалі і чыталі творы Яна Залеўскага, Радаслава Раманюка, Кацярыны Сьвершч, Мар'юша Ажахоўскага, Міраславы Краеўскай і Эвы Коркус. Слухалі іх лаўрэаты III Агульнапольскага паэтычнага конкурсу імя Веслава Казанецкага для вучняў сярэдніх школ, настаўнікі, школьная моладзь і зацікаўленыя паэзіяй жыхары Гайнаўкі.

**(яц)**

## Над ціхаплыннай Сідрай

Сёлета добраўпарадкавалі сцяжынку на беразе павольнаплывучай, завілістай ракі Сідра ў аднайменным пасёлку. А яшчэ ў пачатку лета гэтая шырокая, пракладзеная тратуарнымі плітамі, недзе звыш паўкіламетровай даўжыні сцежка (мясцовая моладзь называе яе „дэптак") была занядбаная. Паабапал яе расла густая высокая крапіва ды ўсялякае іншае пустазелле, лавачкі былі ў значнай колькасці паламаныя. Трава пачала расці, працiскацца вузенькімі пасачкамі паміж тратуарнымі плітамі.

У канцы чэрвеня гэтага года сказаў я пра гэта войту Сідранскай гміны Андрэю Суткоўскаму. Ужо праз тыдзень пасля нашай размовы на беразе Сідры многа змянілася. Перш-наперш выкасілі крапіву і прыбралі паламаныя галіны дрэў. Затым выраўнялі ўхабіны на сцежцы ды пабялілі вапнам тратуарныя парэбрыкі (krawężniki). Пасля адрамантавалі ды памалявалі ўсе лавачкі. І ўжо тады як жа прыемна было пайсці той самай сцяжынкай на прагулку з пасёлка да купальных басейнаў гміннага асяродка спорту і адпачынку.

Быў я ў Сідры 3 і 4 кастрычніка г.г. Былі якраз сонечныя дні і пайшоў я над раку. Прайшоўся той сцежкай пасярод жоўталістых дрэў ды над ціхаплыннай ракой. Авалодаў мною добры прыўзняты настрой.

**Янка Падарожнік**

# Куды ісці слабейшаму?

Што мае рабіць *непаўнаспраўны*, інвалід, скажам, II ці III групы, каб крыху падзарабіць да сваё невялікае пенсіі? Вядома, як цяжка за такія грошы выжыць. Могуць яму запрапанаваць, напрыклад, шыццё рабочага адзення, рукавіц, фармаванне шчотак (найчасцей вельмі цяжка кааператывам збыць такі малавідны тавар). Каб інвалід мог заняцца напр. чымсьці больш сур'ёзным, як краўцоўства, мусіць мець для гэтай мэты большае памяшканне, калі бедныя (найчасцей шматлюдныя) сем'і і так гнездзяцца ў малых кватэрах-клетках.

У Саюзе інвалідскіх кааператываў не мелі і не маюць шмат прапаноў занятку. Інвалід можа ісці шукаць працу ў залежнасці ад стану свайго здароўя.

Калі недамагае на ногі, можа, напрыклад, працаваць за машынай, якая рэгулюе швы, можа абшываць гузікі. Калісьці абавязкам прадпрыемства было давозіць інвалідаў на працу, але цяпер на давоз не дасць прэзас кааператыва, таму што ў час рыначнай эканомікі жыццём гаспадаркі і грамадства кіруюць правы эканомікі, хай бы яна і без „людскога твару".

Вытворчасць мусіць прыносіць прыбытак. Усе прадпрыемствы і кааператывы сёння настаўлены на фінансавую самастойнасць. Адзінай прывілеяй ёсць ільготы ў падатках. Сумы гэтыя трапляюць да інвалідаў у форме рэабілітацыйнага фонду, выкарыстоўваецца іх на спецыялістычную медыцынскую дапамогу, на датацыі, на закупку абсталявання, неабходнага ў штодзённым жыцці. Могуць гэта быць не толькі інвалідскія каляскі, пратэзы, але і пральныя машыны, халадзільнікі.

Калі ўдасца інваліду знайсці працу, часта ягонай амбіцыі не адпавядае яго прымусовая прафесія. Калі ён трапіць у кааператыў, будзе выпаўняць тое, што вынікае з профілю прадпрыемства — шыць цікавае адзенне, фармаваць шчоткі, сплятаць лазу, вырабляць свечкі ці мыла. Калі ён жыве ў вялікім горадзе, можа шукаць працу ў некалькіх *спулдзельнях*, а ў паслуговых комплексах выбар досыць багаты — ад шаўца, масажыста да гадзіннікавага майстра і электроніка.

У Беластоцкім ваяводстве інвалідскіх кааператываў было заўсёды менш у параўнанні з іншымі часткамі краіны (большасць з іх падае ў няроўным капіталістычным змаганні), што не сведчыць пра тое, што *няпоўнаспраўных* у нас менш. Прадпрыемствы хочуць браць папросту людзей здаровых і моцных, адмаўляючыся нават ад сваіх працаўнікоў, якіх калецтва ёсць вынікам выпадкаў у працоўны час. Усё залежыць ад *спулдзельні*, хаця вельмі часта бывае так, што дасведчанне былога працаўніка можна выкарыстаць і цяпер.

Не дапамогуць пастановы Сейма і іншых інстытутаў пра тое, што інвалідам і асобам *непаўнаспраўным* „неабходна забяспечыць магчымасць рэалізацыі іх права на працу па меры іх магчымасцяў — здольнасцяў, кваліфікацый і стану здароўя" і звароты Сейма да ўрада падрыхтаваць „адпаведныя дзеянні ў сферы гаспадаркі і дзяржаўнай адміністрацыі, якія б поўнасцю ўключылі інвалідаў у прафесійнальнае і грамадскае жыццё". Некалькі беластоцкіх прадпрыемстваў ставіліся сур'ёзна да гэтай праблемы, прымаючы *непаўнаспраўных* у рады сваіх работнікаў (м.інш. Беластоцкае паліграфічнае прадпрыемства, „Біязэт", „Ухвыты"). Працаўнікі тыя, бывае, выказваюць большай працаздольнасцю і эфектыўнасцю, чым здаровыя супрацоўнікі...

Але падаюць прадпрыемствы вялікія і малыя, звальняюць шматгадовых выдатных спецыялістаў. На працу клічуць маладых (найлепш каб да 35 гадоў), апаратыўных, прыгожых... І, вядома — здаровых! Недахоп прафесіяналізму выходзіць хутка, як шыла з мяшка. Але тады можна ж пашукаць іншых, не менш файных і ахвотных працаваць, зарабляць грошы, каб жыць. Вядома, капіталізм усміхаецца да найлепшых. І наймацнейшых!

**Міра Лукша**

# ІДЭЯ І ТРАДЫЦЫЯ

Часопіс „Наша Ніва", які ад 1990 года зноў выдаецца ў Вільні, на Беласточчыне вядомы толькі вельмі вузкаму колу беларускай інтэлігенцыі. Нічым не напамінае ён віленскай „Нашай Нівы" з пачатку дваццатага стагоддзя. Першая беларуская „Наша Ніва", створаная маладой, прыхільнай сацыялістычнай ідэі і збунтаванай супраць пануючай рэчаіснасці інтэлігенцыяй, перш за ўсё закранала бытавыя, сацыяльныя і палітычныя праблемы. Рэдактары шукалі чытачоў сярод усіх грамадскіх груп, у тым ліку і сярод сялянства, якому ў сваёй творчасці адводзілі шмат увагі. Літаратурныя творы, якія там друкаваліся, у пераважнай большасці таксама закраналі справы штодзённага жыцця сялянства. „Наша Ніва" Вольскага, Уласава, а пасля Купалы, Коласа, Багдановіча, Бядулі, Гартнага, Цёткі, Гарэцкага паставіла сабе за мэту пераканаць беларусаў, што варта „людзьмі звацца".

Сучасную „Нашу Ніву", якую стварылі маладыя менскія эмігранты, нельга параўноўваць да часопіса пачатку стагоддзя. Перш за ўсё адрасаваная яна да элітарнага асяроддзя, да беларускай інтэлігенцыі ўва ўсім свеце. Зразумела, што асноўная маса чытачоў „Нашай Нівы" знаходзіцца ў гарадах Рэспублікі Беларусь. Часопіс амаль не змяшчае інфармацыі пра жыццё віленскіх беларусаў і магчыма таму сярод іх не мае вялікай пашаны. Старая даваенная беларуская інтэлігенцыя Віленшчыны была вынішчана ўсялякімі акупантамі ў 1939—1945 гадах. Пазбаўленыя сваёй эліты беларусы вельмі хутка пераўтварыліся ў палякаў і расейцаў. „Вясна народаў" на ўсходзе Еўропы паспрыяла таксама адраджэнню беларускасці на гэтай зямлі. Разам з працэсам узнікання незалежнай літоўскай дзяржаўнасці, тамашнія беларусы атрымалі нават эфірны час па радыё і ў тэлебачанні, школу, неўзабаве паказалася „Наша Ніва", а высокія ўраднікі з Менска сталі частымі гасцямі віленскай дыяспары. Не ўсё аднак ішло так паспяхова. Г.зв. базыльянскія муры пры вуліцы Вастрабрамскай, сімвал беларускай культурнай спадчыны ў Вільні, літоўцы аддалі ўкраінскім уніятам. Перад вайной была тут беларуская гімназія, Музей імя Івана Луцкевіча, праваслаўная семінарыя. Сёння відаць там надпісы на англійскай, украінскай і літоўскай мовах. Як жартам гавораць беларускія віленчукі — прывезлі з Украіны пару вагонаў уніятаў толькі таму, каб не даць гэтых будынкаў беларусам. Улічваючы палітычную сітуацыю ў Беларусі, палітыка літоўскіх улад як бы зразумелая. Аднак жа з боку віленскіх беларусаў не было ніякіх намаганняў, каб гэты даваенны цэнтр мог прадаўжаць беларускія традыцыі ў гэтым горадзе.

Паводле Сяргея Шупы, супрацоўніка „Нашай Нівы", беларусам трэба перш за ўсё адваяваць Менск, зрабіць яго сапраўднай культурнай сталіцай беларусаў. Усялякія Лукашэнкі прыходзяць і адыходзяць, а народ існуе вечна і за яго псіхічны стан варта змагацца. Магчыма таму „Наша Ніва" змяшчае матэрыялы, прысвечаныя вечным і агульначалавечым праблемам. — Мы сябе не лічым віленскімі беларусамі, — гаворыць Сяргей Шупа. — Нам мяжа не існуе, мы жывем для беларускасці як ідэі, не маем ніякіх сувязей з месцам прабывання. У Вільні можна рабіць сёння тое, што ў Менску было б немагчымае.

„Наша Ніва" сапраўды вылучаецца з ліку літаратурных часопісаў, якія друкуюцца ў Беларусі. Чалавек, які кожную хвіліну пражывае ўсё яшчэ ў савецкай рэчаіснасці, ці безупынна назірае нейкі тэатр абсурду, якога адначасна вымушаны быць акцёрам, не можа дасягнуць адпаведнай дыстанцыі да спраў чыста этычнага характару. Таму ў большасці беларускіх часопісаў, нягледзячы на іх палітычную арыентацыю, адчуваецца подых савецкай рэчаіснасці. Магчыма тады, што мае рацыю Сяргей Шупа, што Вільня дае нейкі псіхічны камфорт для творчай працы. З другога боку, большасць віленскіх беларусаў сваю беларускасць спалучаюць з традыцыяй горада, у якім пражываюць. Хацелі б прадаўжаць тое, што дзесяткі гадоў рабілі іх суродзічы на гэтай зямлі. Але няма там непасрэднага пераймальніцтва даваеннай традыцыі. Большасць сучасных беларусаў прыехала ў Вільню ў савецкі перыяд. Няма ўжо дзяржавы, якая стварыла ім умовы жыцця і працы на гэтай зямлі. Хаця зросліся з мясцовай рэчаіснасцю, у пэўнай ступені яны там таксама новыя людзі. Таварыства беларускай культуры, якім кіруе Хведар Нюнька, аб'ядноўвае ў большасці людзей ва ўзросце 50—60 гадоў. Сяржук Вітушка, адзін з беларускіх менскіх эмігрантаў апошняй хвалі, разыходжанне паміж нашаніўцамі і дзеячамі Таварыства тлумачыць звычайнай розніцай поглядаў, якая найчасцей выступае паміж дзяцьмі і бацькамі. Да гэтага ячшэ дайшлі асабістыя антаганізмы паміж паасобнымі людзьмі. І адны, і другія прадстаўляюць зусім іншае бачанне свету, іншае бачанне беларускасці. Нашаніўцам беларускасць — гэта ідэя людзей, якім сярод шматлікіх культур свая, па суб'ектынных прычынах, здалася найбольш прывабнай. Пра яе прывабнасць не вырашае ні месца знаходжання чалавека, ні рэлігія, ні палітыка, ні эканомія, а толькі этычныя і эстэтычныя вартасці, якія яна прадстаўляе. Для дзеячаў Таварыства беларускасць мае іншы характар. Быць беларусам — гэта захаваць вернасць традыцыі продкаў, зямлі, мове, рэлігіі. Першая канцэпцыя абазначае канкурэнтнасць з іншымі культурамі і тым самым змаганне за развіццё і якаснасць сваёй. Другая абмяжоўваецца да аховы ўсяго, што з'яўляецца нацыянальнай спадчынай і што ва ўмовах Віленшчыны абазначае трыванне нацыі, не зважаючы на ўсе неспрыяльныя гэтаму акалічнасці.

У нас на Беласточчыне, дзе амаль усе беларусы ад стагоддзяў жывуць на сваёй зямлі, розніцы паміж дзеячамі маюць іншы характар, хаця падзел на „старых" і „маладых" ёсць таксама надта відавочны.

**Яўген Міранові́ч**

# Па слядах „Скамароха"

Ёсць у гісторыі нашай малой бацькаўшчыны асобы, месцы і падзеі, якія не перастаюць прываблiваць аматараў мінуўшчыны. Да іх належыць Герман Шыманюк „Скамарох" і ягоная партызаншчына ў Белавежскай пушчы. Хадзілі калісьці па слядах беларускіх партызан Юрка Туронак, Уладзімір Юзвюк і Васіль Петручук, пасля мы з Генікам Вапам і Юркам Калінам. Не агледзеліся, і ўжо падаспела трэцяе пакаленне, гатовае рушыць партызанскім шляхам.

Кожны шукае па-свойму. Хлопцаў, якія наладзілі наш апошні паход у пушчу, пацікавіла тое, што матэрыяльнае засталося ад таго часу. Паслухаўшы маіх расказаў пра партызанаў, Ігар Лукашук з Гайнаўкі арганізаваў са сваімі сябрамі экспедыцыю, „узброеную" дэтэктарам металу. Найбольш мараў удзельнікаў паходу выклікаў кулямёт, пра які я недзе вычытаў, што хлопцы „Скамароха" прывезлі яго з Літвы, і якога не знайшла паліцыя падчас ліквідацыі партызанскага атрада.

У пушчу едзем на „Рафіку" гайнаўскага Беларускага музея. Спадар Майсеня, вядома, не так ужо спадзяваўся на ўзбагачэнне калекцыі музея, колькі ўцешыўся, што цікаўнасць да мінуўшчыны сярод маладых не прападае. Здзівіўся толькі, што не ўсе хлопцы з адной школы. Спадзяваўся, відаць, што ўсе яны будуць з гайнаўскага беларускага ліцэя, а тут аказалася, што склад экспедыцыі вельмі пярэсты. Хто з Гайнаўкі, хто з Бельска, а хто з Беластока, хто з ліцэя, а хто з тэхнікума. Растуць тыя беларусы, дзе іх і не сеюць.

Шафёр Янка Ляшчук (з суседніх з Лукой маёй маці Боўтрыкаў) вязе нас спярша ў Доўгі Брод, інакш Мацкевічы, да Яўгена Вапы, аднаго з вялікіх аматараў „скамарохаўшчыны". Старшыню Беларускага саюза заспелі мы, як належыць у палове верасня, у полі. Вапы згоднай сям'ёй капалі бульбу. Геніка ад бульбы адарваць было немагчыма, але знайшоў нам надзейнага праваднiка. Дзед Уладзімір Германюк, 1907 года нараджэння, паспеў у сваім доўгім жыцці двойчы быць партызанскім сувязным: у „Скамароха" пасля першай сусветнай вайны і ў савецкіх партызанаў падчас другой.

Дзед Уладзімір ахвотна сядае з намі ў „Рафік", але асцерагаецца, што знайсці колішні логаў „Скамароха" практычна немагчыма, бо за столькі гадоў усё перамянілася. Лес расце там зусім новы, пасаджаны пасля другой сусветнай вайны. Едзем у лес за Тафілаўцы, пад граніцу. Калі выгружаемся з „Рафіка" і Кшысь Ангельчык выцягвае свой дэтэктар, дзед Уладзімір смяецца, што не металу нам шукаць, толькі шкла. З расказаў ведае (яго, хлапчука, у самую сваю схованьь партызаны не дапускалі), што зямля вакол будана партызанаў усцелена была пустымі бутэлькамі з-пад гарэлкі, якую хлопцы „Скамароха" ўзялі падчас нападу на рэстаран у Кляшчэлях, і ўсю акуратна выпілі.

Паглыбляемся ў лес і шукаем г.зв. „шыі", значыць, языка лесу між лугоў (ці-то на адварот).

Дзед Уладзімір бойка брыдзе лесам-лугам, а мы з ім. Дэтэктар маўчыць, не піпікае. Бутэлькаў таксама нешта не відаць. Хлопцы рассыпаліся па лесе, а мы са Славікам Іванюком слухаем расказы дзеда Уладзіміра пра бежанства, партызаншчыну адну і другую. „Я то заўжды быў за саветамі", — заяўляе дзед, на што я кідаю з усмешкай, што няма ўжо такіх саветаў, развязалі іх Савецкі Саюз тут у пушчы, па-суседску. Дзед Уладзімір паглядае на мяне таксама з усмешкай і ўсе трох смяемся, аб'яднаныя пачуццём абсурду і нашай у ім супольнасці.

Хлопцы вяртаюцца з пустымі рукамі, калі не лічыць бутэлькі з-пад ліманаду, старадаўняй ужо, але безумоўна пасляваеннай прадукцыі і сучаснай стандартнай бутэлькі з-пад віна.

Едучы назад, вырашаем усё ж такі не здавацца. Дзед Уладзімір абяцае дакладна выпытаць тых, хто яшчэ можа памятаць, Славік Іванюк — знайсці тагачасную карту, а хлопцы плануюць прыехаць яшчэ раз летам пад палатку пашукаць даўжэй.

У Гайнаўцы яшчэ хутка перабягаем музей (спадар Майсеня, вядома, нам гэтага не адпусціў). Будуюць і безумоўна пабудуюць, а памалу і маладыя далучацца.

Развітаўшыся з музеем і яго гаспадарамі, разыходзімся-раз'язджаемся дахаты.

Падчас спозненага абеду расказваю маці аб паездцы. Маці, выслухаўшы пра партызан, металалом і шклатару, пытаецца нарэшце па-сялянску, канкрэтна: „А як там бульба ў Вапаў?" Тут глянуў я на яе крыху недаразумеваючы, а пасля і нейк вінавата. Фактычна, нават не спытаўся. Ды не толькі я, але проста ніхто не пацікавіўся. Што ж, нарасло пакаленне „бульбашоў", якое бульбу купляе ў краме, у якой яна заўжды ёсць, нягледзячы на ўраджай. Такая вось нечаканая выснова атрымалася.

**Алег Латышонак**

*Віктар Ярмалковіч*

# НА ЖЫЦЦЁВЫХ ХВАЛЯХ

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### Вы — вольныя!

Днела. Пачыналася шэрая і туманная раніца. На пляцы нехта крычаў. Адзін з вязняў падышоў да акна і стаў прыглядацца ды прыслухоўвацца да водгаласаў, якія даходзілі звонку. Раптам адвярнуўся і сказаў нам: „На пляцы збіраюцца людзі з мястэчка. Кажуць, што з усходу граніцу перайшла Чырвоная Армія, а з захаду ідуць немцы. Паліцыя ўцякла". Усе ўскочылі на ногі. „Вы — вольныя!" — далятаў голас з-за акна. Некаторыя вязні кінуліся да дзвярэй. „Асцярожна, — пачуліся галасы, — зважайце, каб не была гэта нейкая правакацыя!" Але на калідоры раздаліся крокі, з трэскам выламаліся дзверы ў нейкай камеры. Паддаліся і нашыя дзверы. Гурмам пачалі мы выбягаць на калідор і на пляц. Так, паліцыі не было. У цэлым лагеры падняўся рух.

Сярод вязняў найбольш было ўкраінцаў. Яны пачалі прабаваць навесці нейкі парадак. Некалькі чалавек дасталася ў склад, дзе захоўваліся адабраныя ад вязняў рэчы. Яны пачалі чытаць прозвішчы і выкідаць знойдзеныя там пакункі. Я, не дачакаўшыся нічога свайго, пайшоў па лагеры. Грамады людзей кідаліся ў розныя бакі. Каля аднаго будынка прыкмеціў я асаблівы рух. Аказалася, што ў ім быў хлеб. Ускочыў у гэты натоўп і я ды схапіў дзве буханкі хлеба. Аднак не данёс іх абедзвюх да сваіх сяброў. Адну буханку вырвалі мне з рук зараз жа на месцы, другую неяк з цяжкасцю абараніў.

Сабралася нас некалькі чалавек з Вільні і пасля кароткай нарады вырашылі не траціць дарма час ды хуценька выходзіць з лагера. Баяліся мы, аднак, нейкага наступу паліцыі. Людзі расказвалі, што за гаспадарчымі будынкамі ляжаць дзесяткі непахаваных трупаў. Вось дзе апынуліся тыя, якіх выклікалі і забіралі на працягу апошніх дзён.

Самай бяспечнай лічылася дарога ў бок Кобрына і туды мы накіраваліся. Людскому натоўпу на дарозе не было відаць ні пачатку, ні канца. Сярэдзінай дарогі на знойдзеных у лагеры роварах час ад часу праязджаліся ўкраінцы, якія стварылі свайго роду разведку і аб'яўлялі ўсім, што дарога вольная.

Як толькі мы выйшлі з Картуз-Бярозы, дарожкамі, сцежкамі, цераз палі беглі нам насустрач людзі. Выносілі яны на дарогу хлеб, малако, мяса і іншыя прадукты. Такі прыём паўтараўся ў многіх вёсках, праз якія мы праходзілі. Аказалася, што вясковыя пасланцы на веласіпедах паведамлялі далейшыя вёскі на шляху нашага паходу, а тыя рыхтаваліся прымаць нас.

Такое стаўленне жыхароў падбярозаўскіх вёсак да вязняў здзіўляла нас, а яшчэ больш дзіваваліся гэтаму ўкраінцы. Некаторыя з іх пачалі нават гаварыць, што гэта ўкраінская зямля. У дзесяці кіламетрах ад Бярозы, на нейкай невялічкай рэчцы знаходзіўся мост, які ахоўваў малады вясковы хлопец з ружжом у руках. „Што гэта такое?" — спыталіся ўкраінцы. „Сцерагу маста", — пачулася ў адказ. „А хто цябе тут паставіў?" — далей дапытваліся ўкраінцы. „Беларускі камітэт", — растлумачыў вартаўнік.

Гэтая апошняя вестка абарвалася на нас як гром з яснага неба. Хто мог спадзявацца, што тут, у месцы найбольш жорсткага ў Заходняй Беларусі нацыянальнага і сацыяльнага ўціску, у месцы беззаконня і садысцкага здзеку над чалавекам, у мясцовым насельніцтве нарадзілася такая пастава і арганізаванасць.

Украінцы звярнуліся да вартаўніка за дапамогай. Патрэбны ім былі падводы для хворых. Мы пайшлі далей.

Вечарам дайшлі мы да Кобрына. У горадзе было ўжо нямецкае войска, якое не дазволіла нам увайсці ў горад. Затрымаліся мы ў нейкай вёсцы. Дастаць начлег у нейкай хаце было ўжо немагчыма. На адным з панадворкаў знайшлі мы стог сена і вырашылі пераначаваць у ім. Але і тут месцы былі абмежаваныя, бо „закватараваліся" ў ім ужо іншыя. Усіх нас ахінала цёмная, вільготная ноч. Далёка, дзесьці з боку Роўна, то з меншай, то з большай сілай грымелі гарматы. Не спалася. Было халадна і трывожна.

*(працяг будзе)*

 

# Брэсцкая унія чатыры стагоддзі пазней

*Пад такой назвай 20-21 кастрычніка г.г. у Любліне адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя, арганізаваная Экуменічным інстытутам і Інстытутам гісторыі Касцёла Каталіцкага люблінскага універсітэта. У сімпозіуме прымалі ўдзел вядомыя спецыялісты па гісторыі Касцёла, іерархі і тэолагі. У ходзе двухдзённай канферэнцыі рымска-каталіцкі бок прадставіў свой пункт погляду на раскол Усходняга і Заходняга касцёлаў, прычыны Брэсцкай уніі і ролю, якую адыграла унія ў гісторыі беларускага і ўкраінскага народаў (кс. біскуп І. Срутва, кс. праф. Б. Кумор, праф. Г. Самсановіч, праф. Р. Лужны, праф. С. Козак). Уніяцкі касцёл на канферэнцыі прадстаўлялі біскупы Іван Мартыняк і Юльян Гбуры, а таксама кс. д-р Яраслаў Маскалык. У рэфератах уніяты засяродзіліся на становішчы свайго Касцёла ў Польшчы і ў свеце. Юры Хадыка з Мінска паказаў уплыў Брэскай уніі на беларускую культуру. Рашуча крытычную пазіцыю ў адносінах да Брэсцкай уніі праявілі прадстаўнікі Праваслаўнай царквы а. д-р Віталь Баравы і д-р Антон Мірановіч. У сваіх дакладах даказалі яны адмоўныя паслядоўнасці Брэскай уніі для Праваслаўнай царквы і Рэчы Паспалітай і яе ўплыў на сучасныя міжканфесійныя адносіны. Выступленні дакладчыкаў у ходзе сімпозіума і дыскусія дазваляюць сфармуляваць некалькі заўваг на тэму ўплыву Брэсцкай уніі на сённяшнія суадносіны паміж Праваслаўнай царквой і Каталіцкім касцёлам.*

Брэсцкі сабор, хаця і адбыўся чатырыста гадоў таму, у далейшым мае значны ўплыў на адносіны паміж Праваслаўнай царквой і Каталіцкім касцёлам. Цень на ўзаемныя праваслаўна-лацінскія стасункі кідае дзейнасць каталіцкіх касцёлаў усходняга абраду (грэчаска-каталіцкага і уніяцкага). Таксама важным элементам з'яўляюцца адносіны галоўных галін хрысціянства да уніяцтва і самога акту Брэсцкага сабора. Гэтае здарэнне ацэньваецца па-рознаму і выклікае многа рознагалоссяў сярод гісторыкаў, тэолагаў, рэлігійных дзеячаў. Праваслаўны бок адмоўна ставіцца да колішняга і сучаснага уніяцтва, г.зн. да спроб навярнуць іншых хрысціян (у індывідуальным або калектыўным парадку), каб прыцягнуць іх да свайго касцёла. Такая форма уніяцтва атаясамліваецца з празелітызмам, які Каталіцкі касцёл ажыццяўляе на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, Славакіі, Румыніі, Балгары ці Сербіі. Празелітызм — памылковая форма евангелізацыі, якая заключаецца ў навяртанні з хрысціянства ў хрысціянства — стаў прычынай новых падзелаў сярод хрысціян. Такую палітыку Каталіцкі касцёл вядзе перш за ўсё ў адносінах да праваслаўных. Ватыкан не зрабіў з ранейшага вопыту ніякіх высноў. Не заўважае ён, што такая форма уніяцтва з'яўляецца крыніцай далейшых падзелаў і падрывае верагоднасць Лацінскага касцёла і яго намераў у адносінах да праваслаўных. Лакальныя уніі, такія як брэсцкая, сталі прычынай далейшага расколу ўнутры роднай Праваслаўнай царквы і крыніцай антаганізмаў паміж каталікамі і праваслаўнымі. Лацінскі касцёл не можа пазбавіцца гэтай мадэлі адзінства і асудзіць прымяняемыя ў мінулым уніяцтва і празелітызм.

Нейкую надзею на змену пазіцыі Рымска-каталіцкага касцёла даваў падпісаны ў Баламанд у 1993 г. Мешаный камісіяй дакумент да тэалагічнага дыялогу паміж Рымска-каталіцкім касцёлам і Праваслаўнай царквой. У ім сцвярджалася, што розныя спробы вярнуць адзінства „не здолелі прывярнуць поўную супольнасць паміж Заходнім і Усходнім касцёламі, а часам нават абвастралі супярэчлівасці".

Дамоўленасць з Баламанд падкрэслівала, што „аб'яднанне пэўных супольнасцей з рымскім прастолам пацягнула за сабою, як паслядоўнасць, парванне супольнасці з роднымі ўсходнімі цэрквамі". Такія уніі заключаліся пры дапамозе пазакасцельных інстытутаў. У такі спосаб узніклі каталіцкія ўсходнія касцёлы. Іх дзейнасць часта ставалася крыніцай канфліктаў і пакут праваслаўнага насельніцтва, а некалі і саміх каталікаў. У выніку не было дасягнута адзінства Усходняга і Заходняга касцёлаў, а падзелы толькі паглыбляліся. Сярод праваслаўных з'явіўся абгрунтаваны недавер да ўсялякіх ініцыятыў Ватыкана. Такі стан наносіць свой адбітак на цяперашнія экуменічныя адносіны, абмежаваныя выключна да відовішчных жэстаў.

Сапраўдны экуменічны дыялог патрабуе ад рымскіх каталікаў вызваліцца ад тэндэнцыі уніяцтва і празелітызму. Праваслаўны бок патрабуе абмежаваць „місійную" дзейнасць сярод праваслаўных беларусаў, украінцаў, расейцаў, славакаў, чэхаў, румынаў і сербаў. Праваслаўныя патрабуюць спыніць захоп іхніх храмаў і іх перадачу уніяцкім касцёлам у посткамуністычных краінах, а таксама прызнання Каталіцкім касцёлам таго, што Брэсцкая унія не можа стаць узорам сапраўднага адзінства.

Праваслаўныя чакаюць, што вярхоўныя ўлады Заходняга касцёла прызнаюць Праваслаўную царкву за сястрынскі і апостальскі Касцёл, у якім здзяйсняецца збаўленне. Сапраўдны дыялог не можа адбыцца, калі ў адносінах да праваслаўных вядзецца афіцыйная ці неафіцыйная місіянерская дзейнасць, прытым на тэрыторыі поўнай дамінацыі Усходняга касцёла. Каталіцкі касцёл павінен пазбавіцца перакання, што па-за ім няма збавення. Для экуменізму неабходнае адабрэнне погляду, што „дар збавення прысутны ў абодвух Касцёлах". Прызнанне гэтага факта верне тэалагічны дыялог і створыць новую плоскасць для пошукаў пагаднення. Ватыкан павінен схіліць уніятаў у Румыніі і Украіне памяняць свае адносіны да праваслаўных. Гэтае дазволіць пазбегнуць многіх канфліктаў. У маштабе Рэчы Паспалітай да экуменічнага дыялогу трэба вырашыць многія мясцовыя канфлікты. Рымска-каталіцкі касцёл не можа пазбаўляць праваслаўных правоў на цэрквы і маёмасць толькі таму, што яны калісьці належалі уніятам (Супрасльскі манастыр). Брэсцкую унію нельга ўсхваляць у публікацыях і выступленнях як дабрадзейства для праваслаўных. Нельга таксама па кан'юнктурных прычынах арганізаваць культ уніяцкіх святых ці кананізаваць з выпадку гадавіны Брэсцкай уніі новых мучанікаў (насельніцтва Пратуліна). Такія дзеянні чыняць немагчымым устанаўленне нармальных адносін паміж Праваслаўнай царквою і Каталіцкім касцёлам у Польшчы і кладуцца ценем на папскую энцыкліку „Orientale lumen". Змешчаная ў ёй дэкларацыя аб сястрыных касцёлах не знаходзіць пацвярджэння ва ўзаемадачыненнях абодвух Касцёлаў. З жалем трэба сказаць, што побач экуменічных дэкларацый Ватыкан працягвае пашыраць свае ўплывы на Усходзе, аказваць падтрымку Уніяцкаму касцёлу ў Беларусі і Украіне, а ўсю тэрыторыю былога СССР папа Ян Павел II аб'явіў для Рымска-каталіцкага касцёла „місійным абшарам". Як відаць, рэчаіснасць разыходзіцца з пракламаванымі дэкларацыямі. У далейшым стаўленне да Брэскай уніі з'яўляецца доказам шчырасці экуменічных інтэнцый.

**Антон Мірановіч**

# БАС — яшчэ не адкрыты

З нечаканасцю адзначыў я ў кастрычніцкім нумары „Часопіса" фельетон Юрыя Сульжыка пад загалоўкам „BAS odnaleziony". З нечаканасцю, бо здавалася, што студэнцкая тэматыка ўжо надобра заглухла ў беларускіх выданнях (у перыядах паміж „Басовішчамі", зразумела). Аўтар фельетона, які сам дзве кадэнцыі (1993—1994) кіраваў беларускім аб'яднаннем студэнтаў (БАС), тлумачыць у ім цяперашнюю сітуацыю арганізацыі. Заўважу адразу, што Ю. Сульжык у сваім аналізе засяроджваецца не на г.зв. аргументах, якімі палемісты перакідваюцца без канца ды і так ніхто нікога не „пераплюне", а на асабістым разуменні з'явы ды яе... чуцці. У сваім допісе буду я прытрымлівацца падобнага падыходу да тэмы. Ці атрымаецца што-небудзь з такой дыскусіі, я няўпэўнены, але разлічваю на некаторую, так сказаць, інтэлектуальную ажыўленасць гэтай праблематыкі. Мабыць, нешта тут пачне іскрыць.

Ю. Сульжык ставіць у сваім тэксце адзін, па-мойму найважнейшы, тэзіс. БАС узгадаваў адно вялікае пакаленне. Мае ён тут на ўвазе людзей, якія ў 1981 г. спрабавалі стварыць БАС і паклалі такім чынам аснову беларускаму студэнцкаму руху ў Польшчы, а таксама людзей, якія восенню 1988 г. давялі да фармальнай рэгістрацыі арганізацыі. Сцвярджае пры гэтым, што ў ходзе развіцця беларускага студэнцкага руху ўзнік падзел у ім на эліту і членскі ніз. Ю. Сульжык сцвярджае таксама, што беларускі студэнцкі рух падрыхтаваў своеасаблівую кадру, якая перанесла свае ідэі ў прафесійнае жыццё, але не прыдбала сабе пераемцаў у студэнцкім руху, у сувязі з чым маем такую сітуацыю, якую маем. Гэта ў скарачэнні асноўная думка тэксту Ю. Сульжыка.

Можна тут, а для далейшага разважання і варта, удакладніць адно вызначэнне — што такое пакаленне? Ці справа тут усяго ў гадах ды іх прамежку? Я пакаленне разумею як той гурт людзей, які здолеў выпрацаваць сваю адметнасць, свой заўважальны інтэлектуальны воблік. Стаўлю тут сабе яшчэ адно пытанне: дзеля чаго мы, так папраўдзе, гуртуемся? Адказаць на гэта можна па-рознаму, але сутнасць слоў, у якія пачнем апранаць тлумачэнні, будзе падобнай. Бо ёсць нейкая супольнасць інтарэсу, погляду, імкнення..., ёсць ідэя. Ідэя, адзначу тут, неабавязкова да канца выказаная, ясна сфармуляваная. Дастаткова аднак, што яна ўсімі адчуваецца і ўспрымаецца. Гэта і ёсць супольнасць. Але, на гэтым не канец. Ёсць тут яшчэ і адзінкавае адчуванне свайго месца ў гэтай супольнасці, якое пераносіцца на канкрэтную працу. Тут ужо трэба звычайна заўпарціцца ды праявіць тую здольнасць, у якой сябе найлепей чалавек адчувае.

У 1988 г., пасля 9-га выпуску „Сустрэчаў", узяў я на сябе кіраўніцтва рэдакцыяй студэнцкага бюлетэня. Сваю ролю ў беларускім студэнцкім руху адчуваў я тады ў вельмі празаічных катэгорыях — трэба было скласці чарговы нумар „Сустрэч", прапхнуць яго праз бюракратычную структуру Згуртавання польскіх студэнтаў, „нацягнуць" уладу на грошы, як сцвярджае Ю. Сульжык, ды завяршыць справу ў выглядзе гатовых экземпляраў, бо, скажам, набліжаўся чарговы рэйд — нагода для распаўсюджвання. Паралельна сябры вялі змаганне за рэгістрацыю БАСа, але гэта мяне ўжо вельмі не закранала, бо я сябе звычайна ў гэтым не адчуваў. Існаваў нейкі падзел на ролі, не ўсё на аднаго чалавека, а прынамсі не ў такім выглядзе, як гэта мела месца ўжо ў 90-х гадах.

Ці быў гэта час змагання, як сцвярджае Ю. Сульжык, змагання, якое дадаткова падштурхвала студэнтаў да дзейнасці? Напэўна так, глянуўшы на агульныя грамадскія акалічнасці. Але, з другога боку была гэта звычайная праца, у якой трэба было імкнуцца да акуратнасці і „прафесійнасці". Прафесійнасць я стаўлю ў двукоссе, бо нехта ўзяўшы сення ў рукі „Сустрэчы" можа пасмяяцца з гэтай нашай прафесійнасці, але ў той момант была гэта амаль вышыня нашых магчымасцяў. Абагульняючы аднак сказанае: упартасць ды імкненне да акуратнасці і прафесійнасці — патрэба любога моманту, калі ўжо пачынаем гуляць у згуртаванасць і грамадскую справу. Рызыкну ў гэтым месцы сцвярджэнне, што калі такія рысы з'яўляюцца, дык нейк сам па сабе пачынае нараджацца воблік пакалення, ці яго імідж. З'яўляецца ён вынікам працы дадзенай згуртаванасці, а пры гэтым вынік мусіць быць трывалы. „Атрасіны", рэйды, фестываль „Басовішча" — усё гэта мае ў сабе нейкі трывалы элемент, бо застаецца па іх, хаця б, публіцыстыка. Выяўляецца пры нагодзе не надта адкрыўчая акалічнасць: намітусіцца — гэта мала. Трэба яшчэ нейкім чынам гэта дакументаваць. Інакш кажучы, дбаць пра сваё publicity. Радыё, тэлебачанне, прэсу трактаваць не толькі як нешта накінутае папярэднікамі, але зрабіць з гэтага інструмент сваёй арганізацыйнай палітыкі. А дзеля гэтага патрэбныя і схільнасць, і ахвота, і заўпартасць, і здольнасць, і. г.д. Ці члены сённяшняга БАС выяўляюць такія рысы, не мне меркаваць. Прадчуваю, аднак, што пералік гэты мог загучаць банальна, бо чалавеку, які мае ахвоту да грамадскай дзейнасці патрэбна яшчэ нешта... вышэйшае. Вышэйшы сэнс, можна сказаць. Рэцэпт на гэты „вышэйшы сэнс" наўрад ці хто-небудзь прыдумае. Заўважу аднак, што ў перыяд маёй лучнасці з беларускім студэнцкім рухам, адчуванне чагосьці такога ў мяне было. Не прыгадваю, аднак, каб вяліся на гэты конт нейкія дыскусіі. Гэта было і ўсё.

Калі ідзе пра недахоп пераемцаў, дык варта і згануць пра наступную акалічнасць: гэта кандыдат павінен праявіць ініцыятыву, паказаць чалавекам з цвёрдымі яйцамі, неэлегантна кажучы. Сцвярджэнне Ю. Сульжыка пра брак узгадаванцаў беларускага студэнцкага руху трохі павярхоўнае. А цяперашні старшыня БАСа, а яго папярэднік? Адкуль яны ўзяліся? Хто захацеў гуляць у гэта, той і далучыўся да беларускага студэнцкага руху. Застой, то застой, але нельга лічыць, што гэта нейкая канстанта ў цяперашнім БАСе. Варта аднак запыніцца над адным важным сцвярджэннем Ю. Сульжыка. У БАСе зменьваецца аснова з вясковай на гарадскую. Варта над гэтым падумаць цяперашняму кіраўніцтву Аб'яднання. Калі б удалося ўлавіць тонкую сутнасць гэтай змены, з прышчапленнем „вышэйшага сэнсу" не павінна быць клопату.

**Аляксандр Максімюк**



 

# Зорка
## старонка для дзяцей

# У Дубічах-Царкоўных



*Карэспандэнткі "Зоркі" (злева): Эля Стэпанюк, Бася Роля і Агнешка Леанюк.*

Даўно ўжо не гасціла наша рэдакцыя ў школе ў Дубічах-Царкоўных. Многа тут змянілася, пастарэлі школьныя будынкі, паменшылася колькасць вучняў, наступілі перамены, характэрныя вясковым школам.

— У нас 73 вучні з якіх 85% ходзіць на беларускую мову, — гаворыць дырэктар Ніна Добаш-Карпюк. — Амаль усе дзеці (98%) ходзяць на ўрокі праваслаўнай рэлігіі. Гэтыя заняткі вядзе айцец Віталій Гаўрылюк. Заняткі рэлігіі асаблівыя — святар вядзе іх на палескім дыялекце.

— Дзякуючы гэтаму, дзеці ўсё разумеюць, — гаворыць айцец Віталій.

Прыемна было пабываць на ўроку рэлігіі ў самых наймалодшых навучэнцаў — дашкольнікаў. Дзеці сказалі сваё імя і прозвішча. Усе карысталіся роднай мовай.

— Хаця ўсё пабольшваецца колькасць польскамоўных дзяцей, то калі мы гаворым да іх па-свойму, яны таксама пачынаюць так гаварыць, — адзначыў святар.

На ўсё жыццё запамятаюць дзеці такія ўрокі, бо яны сапраўды асаблівыя.

„Зорка" сустрэлася таксама з многімі вучнямі і настаўнікамі.

— На адным уроку ў восьмым класе мы займаліся беларускапольскімі перакладамі. Некаторыя пераклады з Купалы захапілі мяне, — гаворыць настаўніца беларускай мовы Галіна Трашчотка.

Працуе яна тут ужо пяць гадоў. Дзякуючы яе старанням, у школе існуе кабінет беларускай мовы. Хаця яго абсталяванне скромнае і ўмовы працы ў школе цяжкія, то не адна гарадская школа пазайздросціла б такога кабінета. Няма тут нічога выпадковага, непрадуманага. Асаблівую ўвагу звяртае насценная газета „Беларускія магнаты", этнаграфічны куточак (з вышыванымі ручнікамі, макаткамі і сялянскімі гаспадарчымі прыладамі), дапаможнікі для вывучэння мовы, нацыянальныя сімвалы — Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг.

— Зараз пачынаем збіраць забабоны і легенды пра паходжанне назваў мясцовасцей, — гаворыць настаўніца. — Такія задачы вельмі падабаюцца вучням.

Пры нагодзе варта адзначыць, што якраз Дубіцкая зямля з'яўляецца нязведаным абшарам фальклору.

У школе не толькі настаўніца беларускай мовы цікавіцца справамі наваколля. Настаўнік фізікі Славамір Кулік (вядомы карэспандэнт „Нівы") апісаў усе прыдарожныя крыжы.

У школе таксама шмат вучняў, якія друкаваліся на старонках „Зоркі": Эля Стэпанюк, Бася Роля, Агнешка Леанюк, Мар'юш Богунь і Томэк Саевіч. Двух апошніх хлапчукоў прымалі ўдзел у творчых сустрэчах для карэспандэнтаў „Зоркі" ў Меляшках. Цешыць і тое, што вучні добра ведаюць „Зорку", а некаторыя, нават збіраюцца стаць нашымі карэспандэнтамі. Гэтую незвычайную школу паабяцаў таксама наведаць славуты беларускі мастак Лёнік Тарасэвіч, каб разам з дзецьмі размаляваць школьную святліцу (пра паасобныя класы напішам у наступных нумарах „Зоркі").

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**



*Злева: Галіна Трашчотка, Славамір Кулік і Галіна Добаш-Карпюк.*



*Дашкольнікі і айцец Віталій.*

# Шаноўныя сябры!

Многія чытачы нашай старонкі прапануюць новую назву для „Зоркі", больш свойскую, дзіцячую, сугучную з беластоцка-беларускімі рэаліямі. Таму наша рэдакцыя вырашыла пазнаёміцца з вашымі прапановамі. Прышліце, калі ласка, свае прапановы новай назвы і малюнка віньеткі.

Пераможцы атрымаюць цэнныя ўзнагароды — фотаапараты вядомай фірмы „Kodak". На вашыя прапановы чакаем да канца 1995 года.

**Ганна Кандрацюк**




### Дарагая „Зорка"!

Мяне завуць Ілёна Кубаеўская. Я вучаніца VI класа Пачатковай школы нумар 3 у Бельску-Падляшскім. Мне 12 гадоў.

На канікулы я паехала да бабулі ў вёску Орлю. Там у мяне вельмі многа сяброў. Разам перажылі мы цікавыя здарэнні.

Аднойчы я з Крысяй, Алінай, Мартай і з хлопцамі — Паўлам і Даркам — пайшлі ў старую хату, у якой ніхто не жыве. Калі хацелі адчыніць дзверы, пачулі мяўканне. Яно данасілася з хлява. Мы хутка туды пабеглі і пабачылі на сене кошку з трыма кацянятамі. Адзін быў рыжа-белы, другі — чорна-белы, а трэці — сівы. Мы іх назвалі: Рыжык, Латак і Мручак, бо ён найбольш мяўкаў. Нам вельмі яны спадабаліся. Мы кармілі кошку, а і кацяняты таксама пачыналі лізаць малако. Я і мае сябры кожны дзень прыходзілі да іх, гулялі з Латкам, Мручкам і Рыжыкам, а кошка толькі прыглядалася і пэўна ведала, што мы не хочам ім нічога дрэннага зрабіць. Яны часта хаваліся ў сена і мы не маглі іх знайсці. Аднойчы я, Аліна і Марта пайшлі да коцікаў. Калі мы прыйшлі, коцікаў ужо там не было. Нам стала вельмі сумна. Але на наступны дзень дзядуля вярнуўся з луга з трыма малымі кацянятамі. Мы ўрадаваліся, бо гэта былі Латак, Рыжык і Мручак. Дзед знайшоў іх каля рэчкі, у якой мы заўсёды купаліся. Кошкі не было, але мы і так скакалі ад радасці. Гэтыя малыя кацяняты падраслі трошкі і засталіся ў нашых бабуляў. Яны цяпер ловяць мышэй. А я чакаю калі іх зноў пабачу.

Для мяне гэтыя канікулы былі вельмі цікавымі. Хаця мінулі хутка, я буду памятаць іх вельмі доўга.

**Ілёна**

# Загадкі н-р 2

(пра надвор'е)

1/ Бегла ліска каля лесу бліска, ні сцяжынкі, ні дарожкі, толькі залатыя рожкі.

2/ Без рук, без галавы, а маляваць умее.

3/ Зароў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак.

4/ Ляціць — маўчыць, ляжыць — маўчыць, а як памрэ, дык зараве.

5/ Наложана пячаць, што без жалеза не пачаць.

Адказы дашліце ў „Зорку". Калі вы адгадаеце хаця б дзве загадкі, будзеце ўдзельнікамі жараб'ёўкі цікавых узнагарод.

# Пра сімволіку ручніка

Чаму беларусы цэняць ручнік?

Ручнік не толькі ўпрыгожвае памяшканне, але і выконвае вялікую ролю ў народных абрадах. Праўда, абрадныя практыкі зараз не маюць таго значэння што даўней. А як было даўней, напрыклад, сто гадоў таму?

Тады цяжка было ўявіць сабе вяселле без ручніка. У вясельным абрадзе ручнік выконваў самую важную, прэстыжную ролю. У час вяселля служыў ён як падарунак маладому, яго бацьку, свату. З'яўляўся ён доказам здольнасцей дзяўчыны. Ручнік ужывалі як падножнік, на якім станавілася маладая пара ў час вянчання. Адыходзячы ад аналоя, маладая цягнула за сабой ручнік, „каб сяброўкі хутка выходзілі замуж".

Маладых урачыста абводзілі ручніком вакол стала, заводзілі за стол. Ручніком звязвалі маладога і маладую ў час пераезду да жаніха, што сімвалізавала адзінства маладых.

Ручнік шырока выкарыстоўваўся ў жалобнай абраднасці. Адзін з такіх старажытных звычаяў — вывешванне ручнікоў з вокнаў у знак жалобы, і для „патрэб" нябожчыка, які паводле вераванняў, можа вярнуцца ў хату.

На Беласточчыне і беларускім Палессі ручнікамі абвязвалі надмагільныя крыжы.

Ручнік ужываўся і пры ўшанаванні духаў продкаў, на „Дзяды", прычым у розных мясцовасцях па-рознаму. На Магілёўшчыне пасля вярэчы на канец стала клалі ручнік, кавалак мыла, ставілі кубак з вадой. На стале пакідалі поўную чарку і вячэру. Людзі верылі, што дзяды прыйдуць і будуць мыць рукі. Ручнік такім чынам служыў дзеля ўшанавання памяці памерлых продкаў. І таму ён **сімвалічны пасрэднік паміж светам жывых і нябачным светам.** І зараз, калі зірнеце на ручнікі, якія аздабляюць вашыя класныя кабінеты, падумайце пра сваіх продкаў, уявіце іх вяселле, на якім ручнік адыгрываў так важную ролю.

З-ка

З гісторыі Беларусі

# Беларускія святыя

Кожны народ ганарыцца імёнамі вялікіх патрыётаў, вучоных, мастакоў. Сярод тых, што жылі і працавалі для Беларусі, ёсць і святыя. (...)

Царква афіцыйна, ідучы за голасам народа, прызнала святымі 14 асоб. У XII ст. жылі і дзейнічалі выдатныя полацкія іерархі: свяціцелі Міна (пам. у 1116 г.) і Дзіянісій (пам. у 1182 г.), а ў XIII ст. — Сімяон (пам. у 1289 г.). Слаўны горад Тураў меў сваіх святых: свяціцеля Лаўрэнція (пам. у 1194 г.), беларускага „залатавуста" Кірылу (памёр у 1183 г.) і прападобнага Марціна (пам. у 1150 г.). У Полацку жыла вялікая асветніца і апякунка беларускага народа — прапаведніца Еўфрасіння. Сярод святых ёсць князі: Расціслаў (пам. у 1167 г.), слуцкая княжна Сафія (пам. у 1612 г.) і альшанская князёўна Юльянія з XVI ст. Апрача іх да сабору беларускіх святых належаць Апанас Берасцейскі (пам. у 1679 г.), прападобны Елісей Лаўрышаўскі (пам. у 1250 г.), святы з Беласточчыны — мучанік-младзенец Гаўрыіл Заблудаўскі (пам. у 1690 г.) і прападобны Макары Мінскі (пам. у 1689 г.).

*(паводле а. Канстанціна Бандарука „Нядзеля беларускіх святых")*

## Увага, конкурс!

**Што Вы ведаеце пра Гаўрыіла Заблудаўскага, апекуна ўсіх беларускіх дзяцей?**

Свае працы дашліце ў „Зорку". Сярод аўтараў разыграем узнагароды — гадзіннікі.

P.S. Пра гэтага святога можаце запытаць у настаўнікаў закону Божага.

*Пішуць школьнікі*

**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Анна Аўсянюк. Я вучаніца V „э" класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Усе вучні вельмі любяць канікулы. У час канікул не трэба хадзіць у школу. Можна пабачыць вельмі цікавыя месцы, наведваць помнікі старадаўнасці.

Многа часу я правяла на ўлонні прыроды. У ліпені я збірала труcкалкі і парэчкі. Я любавалася праменнямі сонца, слухала прыгожы спеў птушак, раскашавалася пахам кветак. Залажыла нават гербарый. Я часта сядзела пад грушай і з захапленнем чытала кніжку.

Летам я паехала над раку. Тады здзейснілася мая вялікая мара. Я пачала плаваць без дапамогі купальнага круга.

Паехала я таксама за чарніцамі. Я вельмі люблю лес. Лес, па якім я вандравала, быў прыгожы і вялікі. Я забыла ў ім усе свае клопаты і смуткі.

Аднак для мяне найбольш падабалася экскурсія ў Белавежскую пушчу. Я пабачыла там жахлівага зубра, стройнага аленя і хуткіх коней-тарпанаў.

Лічу мае канікулы ўдалымі.

**Аня**

# Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 3

Запоўніце клеткі беларускімі словамі, а адказы дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 40 н-ра:** мацак, каліна, мыш, каша, мама, малыш, ціша, пан, каса.

Узнагароду — касету гурту „Белы сон" — атрымоўвае **Івона Кананюк** з Зубава.

| | | | |
|---|---|---|---|
| NARODZINY ↓ | | MAMA ↓ | |
| JĘZYK ↳ | | WÓŁ ↓ | |
| | | | |
| Dom → | | | |
| Mydło ↳ | | | |
| | | | |

# Другі каляровы крыж

У мясцовасці Каленія Меляшкі (вёска побач Меляшок, што ў Гарадоцкай гміне) стаіць новы каляровы крыж. На ім знаходзяцца іконкі беларускіх святых, фрагменты малітвы за Беларусь, а таксама народны арнамент. Крыж размалявалі дзеці з Гарадка: Эля Карпюк, Малгося Госцік, Сільвія Паплаўская, Наталька Парэмбская, Кася Валун, Грышка Цітка, Міхась Парэмбскі, Андрэй Казёл, Андрэй Паплаўскі і Шыман Госцік. Мастацкім кіраўніком, традыцыйна, быў Лявон Тарасэвіч.

Крыж паўставаў у цікавых акалічнасцях. Месяц раней мы размалёўвалі падобны помнік у Меляшках. Ужо тады жыхары Каленіі Меляшкі заявілі, што і яны хацелі б мець такі крыж у сваёй вёсцы. 17 верасня г.г. пачаліся працы над новым крыжам. Хацябыў халодны пахмурны дзень, дзеці прыехалі. Разам з Сільвіяй і Андрэем прыехала іх мама, пані Галіна Паплаўская, былая настаўніца беларускай мовы ў Гарадку. Дапамагала яна маме Элі, пані Ірэне Валун і мясцовым кабетам у арганізацыі мерапрыемства. Нашыя юныя мастакі з Гарадка ўжо малявалі такі крыж, таму да працы прыступілі радасна і рашуча. Дзеці размалявалі крыж за адзін дзень. Прыемна было, калі ў час працы нас наведалі жыхары вёскі, бацькі дзяцей. Працавалі ў стадоле, бо надвор'е было сырое і імглістае. Працы вяліся з пашанай для традыцыі. Пачалі з малітвы, якую адслужыў айцец Мікалай з Гарадка.

Уражвала таксама гасціннасць жыхароў вёскі. Наладзілі яны нам пачастунак не горшы за вяселле. Ад смакоцця аж сталы трашчалі. Юным артыстам жанчыны спецыяльна спяклі торт.

А 1 кастрычніка крыж свяцілі. У вёску прыехалі святары — айцец Мікалай і айцец Яўген. Прысутнічала таксама пані Тамара Бурачэўская, дырэктар Дома культуры, якая дапамагала ў арганізацыі ўстанаўлення крыжа, госці з Беластока: Віктар Стахвюк, былы рэдактар „Зоркі" Міра Лукша, Алена Яскевіч з Менска, і вялікі паклоннік дзіцячай творчасці Алесь Палескі — эмігрант. Усе хацелі сфатаграфавацца ля нашага крыжа. А пазней была гасціна, падчас якой людзі хвалілі крыж.

— Будзем цяпер яго сцерагчы як родных дзяцей. Гэты крыж — самы каштоўны дар мастака і нашых дзяцей, — гаварылі жыхары за багатым сталом.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**

*Гэты крыж размалявала дзесяцера дзяцей з Гарадка.*

# Пракаветны дар Сакрата

*Працяг са стар. 1*

За архетыпам творчасці С. Яновіча — глыбокая сівая старажытнасць, якая бярэ свой пачатак з дакласавага грамадства, Сярэднявечча з яго абвостраным парогам болю ад шматлікіх рэлігійна-нацыянальных войнаў і супрацьстаянняў, трагічнасць падзей новага часу, калі грамадска-дзяржаўны дабрабыт найчасцей пачаў абыходзіць Беларусь. І настальгічныя баладна-навелістычныя матывы найчасцей адцяняюць і надаюць трагічнасць яго ўжо знакамітаму сярод беларусаў, бадай і славян, гумару.

Калі ж задаемся пытаннем: да якога роду літаратуры варта аднесці такую ўжо ж сінкрэтычную творчасць С. Яновіча, то міжволі хочацца сцвердзіць — да эпікі, бо нешта надзвычай фундаментальна глыбіннае, непазбежна і спрадвечна побытавае прысутнічае ў яго прозе, здаецца, ён з апошніх тытанаў прозы, пяро якіх, падобна фолкнераўскаму ці талстоўскаму, ящчэ здольна адолець раманную форму, гэтае наймудрэйшае і бязлітаснейшае люстра, пранесенае па прыгожых гасцінцах і трагічных скрыжалях нацыянальнай, а ў сапраўднасці заўсёды і агульначалавечай, гісторыі. Безумоўна, творы Сакрата — гэта ў нечым і хроніка жыцця нацыі, барацьбы духу, найбольш выяўленай праз побытавыя рэаліі. Дарэчы, гэта адна з найвышэйшых адзнак майстэрства і таленту празаіка (і ўвогуле пісьменніка) — праз трапную дэталь стварыць вобраз. І неяк з хутарскога правінцыяла вымалёўваецца постаць Сакрата Яновіча як пісьменніка еўрапейскага ўзроўню. Майстэрства дэталі напаўняе вобразную прастору Сакратавых твораў лірычным і драматычным настроем.

Чалавецтва ўжо даўно пераканалася, што не ўсё ў лёсе нацыі, як і ў чалавечым жыцці, вызначаецца маральнымі вартасцямі, розумам. У гісторыі нацыі, як і ў жыцці чалавека, шмат трагічнага і таямнічага, перад чым чалавечы род бездапаможны, а шчасце і дабрабыт наканаваны далёка не кожнаму; нездарма найбольш таленавітыя і добрасумленныя людзі заўсёды глыбока няшчасныя. І не адна з хрысціянскіх нацый не пазбегла ў гісторыі свайго існавання выпрабавання пакутамі і цярпеннем. Біблейскія кнігі Старога Запавету, кнігі Іова і Эклезіяста, найбольш прысвечаныя гэтай прабелеме, вучаць чалавецтва шукаць шчасця ва ўсынаўленні, еднасці з Госпадам. Галоўны герой Сакрата Яновіча шукае свайго шчасця ў роднасці са сваім краем, малой Радзімай. І праз флёр побытавых рэалій настойліва імкнецца зазірнуць у глыб чалавека, спасцігнуць законы яго душы, знайсці хаця б нейкую ілюзію, надзею для гістарычнага шчасця і гонару нацыі, і ў гэтай замілаванасці і ў нечым тоесным народнаму жыццю, як своеасабліваму „святому скрыжалю", — менавіта ў гэтым, — сам пісьменнік і яго галоўны герой бачаць сродак захавання і зберажэння сваёй нацыянальнай моцы, патэнцыі і перспектывы. І міжволі прыгадваецца думка, перафразуючы А. С. Пушкіна, што сталая пісьмовасць, мабыць, у асобе Сакрата Яновіча, стаміўшыся аднастайнасцю твораў мастацтва, абмежаваным колам мовы, вычварнай і абранай, звяртаецца да свежых выдумак народных, да нязвыклага прастамоўя, напачатку пагарджанага. Прыгадваецца, што вельмі тоесна напачатку XIX ст. быў успрыняты польскай грамадскасцю феномен поспеху першага зборніка Адама Міцкевіча „Балады і рамансы", у крытычным водгуку вядомы крытык Ю. Колебах пісаў наступныя словы: *У задыхлую атмасферу ўмоўных, будуарных сентыментаў, прапахлых мускусам Талімэны, упалі „Балады", быццам букет апырсканых расою вясновых кветак з сельскіх палёў. Ад гэтых майскіх кветак, ад гэтых вясновых пралесак з берагоў Свіцязі, ад водару чаромхі з курганка Марылі павеяла свежасцю па ўсёй Польшчы.*

У такім параўнанні адчуваецца гістарычны прагрэс, — існуе фармальная мастацкая традыцыя пісьменства на роднай мове, але ў творчасці Сакрата Яновіча (можа больш чым у кагосьці) адчуваюцца і страты дасягненняў папярэдняй славянскай культуры: празмерная празаізацыя і побытавасць у манеры пісьма, гумар тоесны гарадскому анекдоту і жорсткаму гарадскому рамансу, апісальнасць, амаль фатаграфаванне змены настрояў героя (дзе асабліва адчуваецца вельмі непажаданая аддаленасць ад псіхалагізму), — усё гэта выводзіць на больш шырокія, ужо не літаратуразнаўчыя высновы і роздумы.

Грамадска-дзяржаўны вопыт існавання традыцыі суседняй славянскай культуры (традыцыі польскай) міжволі вучыць, што галоўную ролю ў грамадстве іграе сярэдні клас, з непазбежнымі для яго поглядамі і матэрыяльна-практычнай заглыбленасцю. У параўнанні з папярэднім інтэлектуальная заглыбленасць беларускай культурнай традыцыі выглядае ледзь не эфемернай.

Вядома, беларускай інтэлектуальнай традыцыі бракуе практыцызму, але за ёй большая фундаментальная заглыбленасць як у духоўныя, так і ў побытавыя бакі жыцця, — і неабходны мудрасць і народнае пачуццё цэласнасці і гармоніі, каб не згубіўшы найістотнейшага, надаць нацыянальнаму арганізму новыя крыніцы для жыццядзейнасці.

Міжволі згадваецца беларуская нацыя ў часы свайго адраджэння, часы Георгія Францыска Скарыны, асабліва трагічную пару такога імклівага і пакутніцкага беларускага праваслаўнага Рэнесансу пры жыцці св. выспаведніка Лявонція Карповіча, калі пры поўнай палітычнай і канфесійнай праунiяцкай рэакцыі толькі праз надзвычайныя фізічныя і духоўныя ахвяры нацыя ўзнеслася на найвялікшую сваю вяршыню. Ва ўсе эпохі існавання беларускай нацыі яе Рэнесанс быў непазбежна спалучаны з пакутамі, выпрабаваннямі і натуральным трагізмам хрысціянскага жыцця, — але і ўзвышаўся прасветленасцю споведзі, пакаяння, даравання грахоў і надзеі хрысціянскай душы, любоўю да Сусвету і адчуваннем свайго арганічнага і гарманічнага існавання ў ім, далучанасцю да Госпада і ўсыноўленнасцю ім, бо, згодна хрысціянскай аксіялогіі, у трагізме і пакутах — сіла народа, жыццяздольнасць яго на скрыжалях гісторыі.

І хочацца пажадаць слыннаму аўтару большага далучэння да гэтай спрадвечнай жыватворнай крыніцы, прасвятлення і ачышчэння свайго таленту ў „гаючых водах" высокай хрысціянскай славянскай мастацкай традыцыі.

**Алена Яскевіч**

# ЁСЦЬ ЧАГО СПУЖАЦЦА

На свет трэба глядзець злёгку прымружаным вокам — раяць Францішак Хлус і Марцін Юр (тыя самыя, якія два гады таму пачалі пужаць старэйшых і разбэшчваць маладых чытачоў „Нівы" серыяй „Здані і пачвары Беларусі"). Тады „шмат якія таямнічыя здарэнні, жахлівыя злачынствы, дый проста паталягічны ідыятызм знаходзяць тлумачэньне".

„Злёгку прымружаным вокам" напэўна пазіраюць наркаманы, таксікаманы, закаханыя, нацыяналісты, алкаголікі ды рабаўнікі магіл. Пералічаныя катэгорыі з'яўляюцца галоўнымі інфарматарамі аўтараў „першага ў Беларусі навуковага дасьледаваньня арэалаў і ладу існаваньня звышнатуральных і замагільных істотаў", якое цяпер выйшла асобнай кніжкай. „Вам трэба займець сьведчаньні больш сур'ёзных людзей? — спытаемся следам за дапытлівымі даследчыкамі. — А дзе ж іх возьмеш, калі законапаслухмяныя грамадзяне, ды яшчэ цьвярозыя й неачмурэлыя, ніколі без дай прычыны не пацягнуцца поначы за закінутыя могілкі, у трупярню, на скрыжаваньне дарог, у разбураны й запаскуджаны касьцёл"...

У мяне, асабіста, не было ніякіх сумненняў ні адносна верагоднасці сведак, ні кампетэнтнасці апісальнікаў гэтай дэманалогіі. Я праўдзіва жахаўся афганскага пацука-крывасмока, вавёркі-вантробніцы, цэлай плеяды вядзьмарак, мерцвякоў, д'яблаў і прывідаў сібірскага ката князя Паскевіча, які скнаў у жахлівых пакутах, заразіўшыся сіфілісам у час палявання на прыгоннага палешука, а пасля смерці цягаў у сваю магілу юных ленінцаў і абгрызаў іх там да костачак.

І ўсё ж такі, найстрашнейшае ў кніжцы аўтары пакінулі на канец. „Выйдзі на вуліцу, паглядзі ўважліва на твары людзей, уключы тэлевізар, зірні на фотаздымкі першых паласаў урадавых газет. Аўтары перакананыя, што твары людзей, якія ты пабачыш — дэпутатаў, палітыкаў, бізнэсмэнаў, чыноўнікаў ды самога Прэзыдэнта — карацей, асобаў, ад якіх залежыць твой асабісты лёс, пададуцца табе куды больш жудаснымі, ідыятычнымі й бессэнсоўнакрываважэрнымі"... Ад такога сцверджання прымружаная раней вочы адкрываюцца на ўсю шырыню. І дарма ўжо хочацца вярнуцца ў свет герояў: здань, пачвараў і Міколкі-Паравоза, які з чыгуначнага адхона выстаўляў прэм'ер-міністру голую дупу.

**М. В.**

------------

Францішак Хлус і Марцін Юр, *Здані і пачвары Беларусі*, Беласток—Менск, 1995.




## Ні адно...

... Адно дрэва не шумела так трывожна
так трывожна і глуха
як Ты
... але
перад світанкам заціх ты
так
спакойна ўзіраючыся глыбінёй аметыставых вачэй
у мора квітнеючай канваліі
помню тую вясну...
калі
халодная
таямнічая
пустыня адзіноты Наксас
даравала мне жыццё
дзе хваліна сталася абрысам
мелодыя кветкай
а колер смакам
толькі шкада
шкада што
у грудзях засталося адно слова
не пагладжанае ветрам мора
дотыкам вуснаў
чарай канваліі
ці заўсёды так будзе
горыч іроніі мне даруй
і глянь маім вокам
пасля сонца заходу на пляж
на пляж канваліі
і паспрабуй вычытаць правы свае
з мора нязбытнай мовы
спяшайся
бо
ноч безабаронная перад золакам,
які
перанікае ў серабрыстую цішыню ночы
звінеючы ціха сонечным бурштынам
слабы ўзносіць свае крылы
але зямля яшчэ не ўсплыла з начнога мора
зачаравана белізной вясенняй канваліі
помні
праменні пякуць
але
ўспалыхнуўшыся можаш стацца вольным
толькі
ці то што тваё
астаецца вечнай перлай на дне канваліі
ці толькі замяшаннем у мінулым
дзе слоў вадаспады плывучыя нікуды
забіраюць усё

## Бераг вынослівасці

... пакой тануў у пульсуючым змроку
раптам
празвінеў крышталь
пхнуты віскі
і паплылі перлы
стрымваныя годнасцю
я не магу ж уцячы сама перад сабой
гэта ўжо не той час
не той час
калі пазытыўка *) пералівае колеры
ангельскага вальца
незабытага дрыжання маладосці
вочы так пякуць
аж рэха панясло журбу
да шкляных берагоў вынослівасці
але ці кожны
ці кожны чалавек мае настолькі
смеласці
каб
глянуць сабе ў люстэркавы твар
далоняю пяшчотна дакрануцца вуснаў
падбародка
і пачуць жыццё
гэта такое цяжкае
калі абяссільвае адзіноцтва
і ўнутраны страх перад людзьмі
звязвае рукі
... о мая галава
такі шум
і боль
як мне дрэнна
хіба зараз буду крычаць немым голасам
але ...
золак яшчэ спіць
зноў кілішак
і крылы фантазіі ў плячы
пустыя словы тонуць у імгле дзікай беласці
ці я яшчэ сплю
ці гэта толькі...
... сон

**Івона Марціновіч**

-----------

*) музычная шкатулка

# У справе Гданьскага аддзела БГКТ

Спадар Ян Сычэўскі разглядае справу Гданьскага аддзела БГКТ у этычных катэгорыях („Ніва" н-р 37 ад 10 верасня 1995 г.), а яе трэба разглядзець па гаспадарскіх правілах.

Горад Гданьск не хоча ўтрымліваць памяшкання пры вул. Альжбятанскай 10/11 у Гданьску, у якім тымчасова знаходзіцца сядзіба Гданьскага аддзела БГКТ, затым трэба штосьці з гэтым зрабіць. Калі справа не будзе вырашана, то каторагась дня прыедзе каморнік і згодна з судовымі пастановамі пяройме ўсю маёмасць і дзесьці яе вывезе. І такія будуць „прынцыпы дэмакратыі". Маёмасць аддзела з'яўляецца ўласнасцю БГКТ, а не Гданьскага аддзела і вырашаць, што з ёю зрабіць, можа толькі Галоўнае праўленне, а не гданьскія дзеячы. Просім старшыню Сычэўскага заглянуць у статут Таварыства — там усё напісана, што трэба ў такім выпадку зрабіць. Калі мы атрымаем ад вас пастанову, у пісьмовай форме, што маёмасць трэба перадаць бедным, аддамо бедным. Калі аддасце гданьскім беларусам неадплатна — то згодна з законам прымем яе і падзякуем.

А цяпер некалькі заўваг да згаданага адказу старшыні ГП БГКТ Яна Сычэўскага. Тое, што ГП БГКТ магло скасаваць дамову са Збожжавым прадпрыемствам на карыстанне памяшканнем пры Доўгім Таргу 8/10 у Гданьску, усім вядомае і не ў тым справа. Нас абышло тое, што ГП зрабіла гэта без паведамлення гданьскіх дзеячаў. Ужо па факце Збожжавае прадпрыемства заявіла нам, што да канца чэрвеня 1992 г. трэба пакінуць памяшканне. Усё рабілася на лапу-цапу, і гэта была ўжо наша праблема, а не ўлад і дзесьці трэба было маёмасць аддзела БГКТ схаваць (проста немаральна было б пакінуць яе на волю лёсу). Калі арганізацыйны балаган у Таварыстве пачаў пагражаць існаванню нашай тут супольнасці як арганізацыі, мы ў 1993 г. стварылі Беларускае таварыства „Хатка" як самастойную, незалежную ад нікога арганізацыю. Не стварылі мы яе процiў БГКТ, але для тутэйшых беларусаў.

Шкада мне старшыні Сычэўскага. Глядзіць ён на ўсіх навокал праз бальшавіцкія акуляры: хто не з намі, той процiў нас („Ніва" н-р 39 ад 24.09.1995 г. — „Пасольска-беларускія размовы"). Добра помню 1989 год. Усім было вядома, што ідзе пералом і БГКТ як таварыства апынецца ў новых абставінах, але да галоўных дзеячаў Таварыства гэта не даходзіла і далей, як бачым, не даходзіць. Канструктыўнай крытыкі не прымаў старшыня Баршчэўскі. Не прымаў, ці не разумеў? Калі не разумеў дык можна прабачыць, але чаму ў такім выпадку не сышоў з „пасады"? Дзеячам Таварыства здавалася, што змены будуць кароткатрывалыя, а потым зноў усё пакоіцца па старых каляінах. Бараніліся „дзеячы" Таварыства перад усімі, хто хоць крыху хацеў інакш, больш нармальна і многа людзей адходзіла, у тым ліку многа актыўных, якім неабыякавай была справа беларушчыны ў Польшчы. Закладалі яны свае таварыствы, арганізацыі ці іншыя структуры. Але калі так, то ці не магло б быць еднасці ў разнастайнасці поглядаў на розныя справы. Не. Трэба ўсё зрабіць, каб часам хтосьці не выйграў выбараў, каб не высунуўся наперад. Старшыня Сычэўскі бачыць толькі злую волю ў дзейнасці Беларускага саюза, а Беларускі саюз — гэта ж тая еднасць беларуская. І як тут не шкадаваць старшыню за распаўсюджванне глупстваў пры нагодзе розных афіцыйных выступленняў (глядзі: „Ніва" ад 25.09. 1995 г.). Іх можна ўспрымаць як свайго роду фальклор. Жыць з гэтым можна. Трагедыі няма, а грамадскае жыццё набывае нейкую каларытнасць. Справа, аднак, пачынае быць сур'ёзная, калі вырашаюцца справы сённяшняга быцця і будучыня беларускай меншасці ў Польшчы. У такім выпадку трэба аднаго голасу салаўя, а не хору ўсялякага віду птушак.

Існаванне нашай меншасці залежыць ад стану надбудовы: асветы, навукі, арганізацыі гаспадаркі. Навука і асвета будзе існаваць тады і толькі тады, калі будзе мець адпаведную матэрыяльную базу, а ёй стаць можа Цэнтр беларускай культуры (думаю, што і гаспадаркі). І то дзяржаўны, а не якісьці іншы. А дзяржаўны таму, што беларусы з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы. Наш шанц у тым, што Польшча хоча ўвайсці ў еўрапейскія структуры, а тыя патрабуюць стварыць усе ўмовы для аптымальнага развіцця меншасцей. Не будзе тады месца на ксенафобію, прынамсі так я, хаця можа і наіўна, думаю.

Каб бачыць шырэй, трэба вышэй узляцець. З панадворка гміны ці павета не відаць істоты справы. І ёсць людзі сярод беларусаў, якія ўзлятаюць вышэй, каб глянуць на нашу рэчаіснасць з большай перспектывы, але ёсць і іншыя, якія бачаць гэтыя намаганні як „... вульгарныя, немаральныя закіды, падыктаваныя выключна злой воляю...". Злой воляю!? Спадар Сычэўскі, апамятайцеся! Колькі ж трэба мець у сабе злосці да ўсяго свету, каб так думаць і балакаць пры паслах Сейма РП.

Калі заглянуць у гісторыю, то заўсёды, там, дзе развівалася культура, існаваў цэнтр. Такі цэнтр уплываў на наваколле. Першы з берагу прыклад — Вільня, колішні Супрасль на Беласточчыне, ці іншыя асяродкі. Такім цэнтрам цяпер з'яўляецца Беласток, і там, а не ў іншым месцы, павінен быць заснаваны Цэнтр беларускай культуры. З таго, што ў многіх вёсках пабудаваны дамы культуры, не вынікае яе прагрэс, а калі нават, то вельмі расцягнуты ў часе. Культура — гэта не толькі час ад часу фэстын і тэлебачанне. Культура — гэта школа, асвета, свабода будаўніцтва, сельская гаспадарка, дарогі, спажыванне, вольны час, нацыянальная свядомасць, вера, рэлігія, дэмакратыя, мова і г.д. То сукупнасць усяго, з чаго складаецца цывілізацыя і яе ўзровень. І таму, дарагія дзеячы Таварыства, калі не памагаеце, то хаця, не перашкаджайце. На каленях вас трэба прасіць, ці як? Спраў многа, а вы ўсё пра адно: што „Ніву", камп'ютэры забралі, што Таварыства разбілі і г.д. Глядзяць на нас паслы, міністры і не разумеюць аб чым вы, паважаныя сябры Таварыства, усё так балбочаце, і каго цікавяць вашы сваркі. Адбываюцца яны па іх думцы. Нічога для беларусаў не трэба рабіць, пакуль яны, значыць беларусы, не ўладкуюцца. І так цягнецца ўжо некалькі гадоў. Зусім гэта страчаны час. Нават С. Яновічу рукі апусціліся, і піша цяпер у мінорным настроі. Так не можа быць, каб меншасць цярпела з-за аднаго Таварыства.

**Міхал Куптэль**

PS. Старшыня Сычэўскі закідае нам брак маралі і інтэлігентнасці. Калі на гэта няма доказаў, то такі лозунг становіцца ўсяго пустой фразай.

# А МОЖА ВЯРБЛЮД?

Жыве сабе чалавек. Ходзіць па вуліцах, есць, п'е, працуе, гуляе, спіць. І нават у самым чорным сне не сніцца яму, як лёгка стаць абвінавачаным у „ненармальнасці". Як хутка можна трапіць за браму Псіхіятрычнай паліклінікі ў Харошчы. На асабістым прыкладзе пераканаўся ў гэтым навуковы працаўнік Беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта, спецыяліст па класічнай філалогіі, даследчык антычнай літаратуры, д-р Мечыслаў Вісьнявольскі.

Д-р Вісьнявольскі працуе ў беластоцкай вучэльні ад 1974 года. Мае добрую рэпутацыю, цэняць яго калегі-навукоўцы і студэнты. „Яго заняткі — арыгінальныя, жывыя, спраўныя і прадуманыя, — напісаў старшыня студэнцкага самаўрада на Гуманітарным аддзяленні. — Д-р Вісьнявольскі пазбягае канфліктаў, яго асабістая культура, паводзіны і разуменне студэнтаў выклікаюць нашую сімпатыю".

„На працягу амаль дваццацігадовага супрацоўніцтва з Інстытутам польскай філалогіі, — напісаў намеснік дырэктара інстытута праф. Багуслаў Нававейскі, — д-р Мечыслаў Вісьнявольскі паказаўся як сумленны і ўслужлівы працаўнік, акцэптаваны ў сяброўскім асяроддзі".

Нягледзячы на поспехі ў прафесійным жыцці — шматлікія навуковыя публікацыі, міжнародныя канферэнцыі, прызнанне ў асяроддзі — асабістае перарадзілася ў кашмар. Жонка хоча разводу, муж не дае згоды. Жывуць у адной, трохпакаёвай кватэры, разам з сынам, які вучыцца ў сярэдняй школе. Замкі ў пакоях, абкручаны ланцугом халадзільнік, асабістыя краны і душ, якія адкручваюцца кожны раз карыстальнікамі. Суды і двухбаковае абвінавачанне ў пабоях. Сын стаіць на баку маці.

Пасля аднаго з абвінавачанняў жонкі, што муж хоча яе забіць, бо мае м.ін. вялікі нож для рэзання сырога мяса і кніжку „Злачынства пад мікраскопам", суддзя — жанчына — скіравала д-ра Вісьнявольскага на псіхіятрычнае абследаванне. Паводле суддзі абвінавачаны вёў сябе неадпаведна таксама ў судзе, што ўпэўніла яе ў слушнасці накіравання. Хаця так напраўду невядома, чаму паводзіны ў судзе былі палічаны неадпаведнымі.

Вісьнявольскі згадзіўся на размову з псіхіятрамі. Нават паехаў дзеля гэтага ў Харошчу. Аднак лекарам аднаго дня не хапіла, каб адназначна ацаніць стан псіхічнага здароўя абследаванага. Запрапанавалі памясціць яго ў паліклініцы на шэсць тыдняў, каб зрабіць грунтоўныя аналізы.

— Ці вы разумеце, што такое паўтара месяца ў псіхушцы? — пытаецца Мечыслаў Вісьнявольскі. — Я быў там усяго дзень і мне хапіла гэтага бруду, смуроду. То ж там найздаравейшы чалавек звар'яцець можа. Я ў аніякім выпадку не згаджуся, каб мяне туды замкнулі. Як гэта можна? Ніхто мне нічога не даказаў, адно на падставе гіпотэзаў хочуць, фактычна, пазбавіць свабоды. А дзе святы прынцып рымскага права — пакуль не даказана віна, абвінавачаны лічыцца нявінным. Ніхто не падумаў, што ў той час будзе з маёй працай, з маім жыццём урэшце. Як мне вярнуцца ва універсітэт пасля псіхіятрычнай бальніцы?

Ваяводскі суд вырашыў, што не трэба пакуль ісці на шасцітыднёвае абследаванне псіхічнага здароўя ў Харошчу, з адным абумоўленнем: сваё меркаванне наконт падсуднага мусяць выказаць іншыя псіхіятры.

— А што, калі і гэтыя скажуць: „здаецца нам, яму нешта мроіцца ў галаве"? — кажа Вісьнявольскі. — Тады ўжо паскардзіцца няма каму, зачыняюць і ўсё. Я магу згадзіцца на размову з псіхолагам ці псіхіятрам, але з такім, якога я выберу, а не з такім, што нават пастановы не ўмее напісаць без арфаграфічных памылак. І такі чалавек мае права замкнуць мяне разам з вар'ятамі.

* * *

Жыве сабе чалавек... А хто яго знае, нармальны ён, ці псіх?

**Мікола Ваўранюк**





Białoruskie Zeszyty Historyczne t. 2, Białystok 1994; Rec. MAJECKI Henryk, *Białostocczyzna* 1995, nr 2 (38), s. 107-108.

Białoruskie Zeszyty Historyczne t. 3, Białystok 1995; Rec. Siebie lubimy najbardziej, *Gazeta Współczesna*, 8.09.1995 r.; (jon), *Kurier Poranny* 12.09.1995 r., nr 209 (1514), s. 9; MILEWSKI Jan Jerzy: W białostockich czasopismach historycznych, *Gazeta Ty-godniowa* 1995, nr 18, s. 4; (ota): Zeszyty do historii. *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 10 (124), s. 41.

BORKOWICZ Jacek: Rzeczpospolita 30 języków. (Języki mniejszości narodowych). *Więź* 1995, nr 4, s. 121-129.

ČYKVIN Jan: "Romans" M. Bohdanowicza w przekładzie na język Polski. *Białostocki Przegląd Kresowy* t. 1 (1994), s. 81-84.

Dacewicz Leonarda: Nazewnictwo kobiet w dawnym powiecie mielnickim (XVI-XVII w.). Białystok 1994; Rec. CITKO Lilia, *Białostocczyzna* 1995, nr 2 (38), s. 110-112.

DIEC Joachim: Błazen Apokalipsy. Wasilij Rozanow jako pisarz i krytyk. Kraków 1993; Rec. MAZUREK Sławomir, *Czas Kultury* 1995, nr 1, s. 71-72.

(dc.): Braterski obowiązek. Białostocka "Solidarność" pomoże związkowcom na Białorusi. *Kurier Poranny,* 12.09.1995 r., nr 209 (1514), s. 8.

GAWRYLUK Andrzej: Nacjonalizm jest obcy naturze Białorusinów. Z przewodniczącym Olsztyńskiej Rady Terytorialnej Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego w Białymstoku... rozm. przepr. Stanisław Jermakowicz. *Gazeta Olsztyńska,* 13.05.1992 r.

Gawryluk Andrzej: Być Białorusinem. Olsztyn 1995, ss. 24, il. odb. xero.

JANOWICZ Sokrat: Pochodzę z ludu kolonialnego. Rozm. przepr. Janusz Niczyporowicz, *Przegląd Tygodniowy* 1995, nr 20, s. 6.

KALINA Jerzy: Białorusini w Polsce. Próba analizy sytuacji mniejszości narodowej. *Dziś* 1995, nr 8 (59), s. 47-53.

KOMOROWSKI Jarosław: Wędrując przez Polesie. (Zabytki architektury), *Spotkanie z Zabytkami* 1995, nr 2, s. 16-17.

Kościół prawosławny w Polsce dawniej i dziś. Aneks statystyczny z parafialnych ksiąg metrykalnych Białostocczyzny XVIII, XIX i XX w. Pod red. L. Adamowicza i A. Mironowicza, GUS Warszawa 1993; Rec. PAPIERZYŃSKA-TUREK Mirosława: Prawosławie na Białostocczyźnie w świetle ksiąg metrykalnych. *Cerkovnyj Vestnik* 1995, nr 9, s. 13-18.

(kr): Różnice bez konfliktów. Posłowie o stosunkach mniejszości białoruskiej z Polakami na Białostocczyźnie. *Kurier Poranny,* 11.09.1995 r., nr 208 (1513), s. 3.

LECKO Ksenofont: Verš Janki Lučyny "Pyszny widok" u belaruskich perekladach. *Białostocki Przegląd Kresowy* T. 1 (1994), s. 77-80, streszcz. w jęz. pol.

LIST wiernych prawosławnych Białostocczyzny do Jego Świątobliwości papieża Jana Pawła II. *Cerkovnyj Vestnik* 1995, nr 9, s. 19-21; *Czasopis* 1995, nr 9 (56), s. 10.

MAKAC Anna: Małżeństwa wyznaniowo mieszane w opinii księży prawosławnych. Praca magisterska. UW Filia w Białymstoku Wydział Pedagogiki i Psychologii, Białystok 1995, ss. 57, mnps.

Matus Irena: Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej. Białystok 1994; Rec. IWANIUK Sławomir, *Białostocczyzna* 1995, nr 2 (38), s. 105-107.

MISIEJUK Grzegorz: Współczesny ekumenizm Polski. *Cerkovnyj Vestnik* 1995, nr 9, s. 3-8.

PAWELEC Grażyna: Zioła walczą z Czarnobylem. Czy w Starzynie dzieci z Białorusi będą się leczyły przez cały rok? *Gazeta Współczesna,* 18-20.08.1995 r., nr 159 (13311), s. 1, 7, il.

(pap. Jer): W sprawie Białorusinów (7-9 września przebywać będą w Białostockiem posłowie). *Kurier Poranny,* 24.09.1995, nr 193, (1498), s. 5.

URBAN Kazimierz: Jubileusz ks. Grzegorza Sosny. *Cerkovnyj Vestnik* 1995, nr 9, s. 9-12.


**Р. С.**

